# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 36-37 (246-247) 10 — 23 верасня 1996 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ

# СЛАВУТАЯ ГОСЦЯ З ПОЛЬШЧЫ

***З нецярплівасцю чакалі на Беларусі прыезду вялікай польскай салісткі — піяністкі Галіны Чэрны-Стэфаньскай, вядучага польскага інтэрпрэтатара музыкі Фрыдэрыка Шапэна, лаўрэата шэрагу ўзнагарод вядомых міжнародных фестываляў, такіх, як фестывалі ў Хельсінкі, Парыжы, Маскве, Гамбургу, Прэторыі і інш.***

Галіна Чэрны-Стэфаньска нарадзілася ў Кракаве. Першым настаўнікам музыкі быў яе бацька — прафесар Станіслаў Чэрны. Вучылася ў класе Альфрэда Каркота ў Парыжы, а потым у Юзафа Турчынскага, вялікага знаўцы музыкі Шапэна, а таксама ў выдатнага педагога Збігнева Турчынскага.

Лёсавызначальным момантам у яе жыцці быў удзел у IV Міжнародным конкурсе музыкі Шапэна ў Варшаве, дзе яна заняла першае месца і атрымала дыплом за найлепшае выкананне музыкі Шапэна. З гэтага моманту пачынаецца яе бліскучая кар'ера непараўнальнай выканаўцы музыкі Шапэна і іншых кампазітараў.

У незвычайна багаты рэпертуар Галіны Чэрны-Стэфаньскай уваходзяць творы майстроў розных эпох: ад Баха да сучасных кампазітараў, аднак дамінуе ў ім рамантычная музыка, і перш за ўсё музыка Шапэна.

Галіна Чэрны-Стэфаньска як салістка супрацоўнічае са шматлікімі філармоніямі як у Польшчы, так і за мяжой: Дзяржаўным філарманічным аркестрам і Аркестрам Кракаўскай філармоніі, Аркестрам радыё і тэлебачання ў Катавіцах. Выступала ў якасці салісткі са шматлікімі сімфанічнымі аркестрамі свету ў ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі і Японіі. Часта выступала з сольнымі канцэртамі ў суправаджэнні аркестраў, якімі дырыжыравалі такія славутыя дырыжоры, як Боульт, Мэхта, Смэтацэк і іншыя.

Выступала з канцэртамі на ўсёй тэрыторыі былога СССР, дзе правяла звыш 20 турнэ. Сольныя канцэрты славутай піяністкі пакарылі слухачоў у розных краінах Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. Яе сольнае выступленне ў ААН і два сольныя канцэрты ў Нью-Ёрку мелі вялікі поспех.

Падчас сваіх канцэртных паездак па гарадах Японіі яна зачаравала сваім выканальніцкім майстэрствам японцаў.

Галіна Чэрны-Стэфаньска належыць да ліку найбольш славутых выканаўцаў камернай музыкі. У Польшчы неаднаразова прысуджаліся ёй дзяржаўныя прэміі і высокія ўзнагароды, у тым ліку ўзнагарода міністра культуры і мастацтва. Галіна Чэрны-Стэфаньска была членам журы на розных міжнародных конкурсах піяністаў: Конкурс імя Рубінштэйна ў Тэль-Авіве, Конкурс музыкі Шапэна ў Варшаве, Конкурс імя Хуммеля ў Браціславе, Конкурс імя Сібеліуса ў Хельсінкі, а таксама ў Парыжы, Бухарэсце, Лейпцыгу, Маскве, Афінах, Брэмене, Гаване, Прэторыі і інш.

Славутая артыстка выкладае ў музычных навуковых установах у Ваймеры, Дормстунгу, Гамбургу, Лугане, Токіо; на працягу двух апошніх гадоў — у Нагоі, з верасня 1993 года ва універсітэце "GEDAI" (Токіо).

Галіна Чэрны-Стэфаньска запісала шмат дыскаў у Германіі і Японіі. У 1989 — 1993 гг. выйшлі плыты з музыкай у яе выкананні (мазуркі і накцюрны Шапэна, а таксама творы Падарэўскага).

Знакамітая піяністка прызнана "паслом польскай культуры ў свеце", а яе прозвішча добра вядома ўсім аматарам музыкі на ўсіх кантынентах.

Прыбыла пані Галіна ў Мінск у пятніцу 13 верасня. Раніцой наступнага дня адбылося яе спатканне, Master-Classe, як традыцыйна яго называюць, з вядучымі музыкантамі ў Беларускай акадэміі музыкі. Вечарам славутая піяністка выступіла з сольным канцэртам у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзе выканала творы выключна польскіх кампазітараў: Фрыдэрыка Шапэна, Ігнацыя Яна Падарэўскага, Караля Шыманоўскага, а таксама маладога, заўчасна памерлага кампазітара Юліуша Зарэмбскага, якога яна адкрыла для сябе і які, дзякуючы ёй, сёння набывае славу аднаго з вядучых музыкантаў у гісторыі Польшчы.

У нядзелю, 15 верасня, адбыўся канцэрт на радзіме Адама Міцкевіча — у горадзе Навагрудку.

Галіна Чэрны-Стэфаньска прыязджала на Беларусь па запрашэнні польскага пасольства пры актыўным удзеле філармоніі, беларускіх музыкантаў і польскіх асяродкаў.

**Павел ПШЭЦІШЭЎСКІ**
**Першы Сакратар Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь**



**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# НАТАТНІК ТЫДНЯ

У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесячна на працягу года.

Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь аб'яўляе прыём заявак ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1996 год. Для разгляду камісіі па прысуджэнні стыпендый неабходна прадставіць наступныя дакументы:

1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);

2) рэкамендацыю творчага саюза альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;

3) творчую біяграфію;

4) спіс творчых прац і заслуг.

*Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 20 кастрычніка 1996 г. па адрасе: 220617, г.Мінск, пр.Машэрава, 11, аддзел музычных устаноў і цыркаў. Даведкі па тэлефоне 223-74-12.*

Мемарыяльная дошка ў гонар вядомага літаратара, крытыка, педагога прафесара Уладзіміра Андрэевіча Калесніка з'явілася на фасадзе дома № 10 па вуліцы Чапаева ў Брэсце, дзе ён доўгія гады жыў і ствараў. На адкрыццё памятнага знака сабраліся паплечнікі і вучні У.Калесніка, кіраўнікі вобласці і горада, жыхары, студэнты ВНУ.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

**"Размова з камянямі"** — так называецца скульптурны пленэр, які прайшоў на пляцоўках сталічнага дзіцячага садка № 205. Гэты праект Андрэя Вараб'ёва быў прафінансаваны Фондам Сораса. Сродкаў хапіла не толькі на набыццё неабходнага абсталявання, але і на ганарары ўдзельнікам пленэру.

**У кітайскім горадзе Чаньчунь** прайшоў Міжнародны кінафестываль. Беларускае кіно тут было прадстаўлена фільмам М.Пташука "Гульня ўяўлення".

**12—13 верасня ў Пінску** прайшла абласная навукова-практычная канферэнцыя "Роля дзяржаўных і грамадскіх арганізацый вобласці ў захаванні гістарычнай спадчыны і далейшым развіцці культуры".

**У Гомелі пачаў выходзіць** новы літаратурны часопіс "Палессе". Тут будуць прадстаўлены мастацкія творы і публіцыстыка аўтараў з Бранскай і Чарнігаўскай абласцей на іх родных мовах.

**19 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі** а 16-й гадзіне пройдзе паэтычная вечарына Навума Гальпяровіча "На востраве душы". У сустрэчы бяруць удзел барды і артысты. Ініцыятар праекта — беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч".

**Мастацтвазнаўчы лекторый** "Мастацтва скрозь стагоддзі" (жывапіс, музыка) працягвае заняткі па серадах увечары ў сталічным Палацы культуры прафсаюзаў.

## АМЕРЫКАНСКІЯ ПРЫПЕЎКІ Ў ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫМ ВЫКАНАННІ...

Назіраць у гэты вечар з-за заслоны за публікай было вельмі прыемна: цяжка ўзгадаць, калі ў апошні раз бачыла запоўненым не толькі партэр, бельэтаж і балкон філарманічнай залы, але і яе ложы. Значыць, талерантная беларуская душа здольная яшчэ раскрыцца насустрач не толькі прамовам, але і гукам музыкі. Безумоўна, вялікую ролю адыгрывае тут і звыклая цікаўнасць да прадстаўнікоў заакіянскай культуры — са сцэны гучаў традыцыйны джаз у выкананні амерыканскага калектыву "Хотланта дыксіленд" (Атланта, штат Джорджыя, ЗША). І, канешне, прываблівала магчымасць непасрэдна, "жыўцом" параўнаць "іх" з нашымі музыкантамі ("разагравaў" публіку мінскі дыксіленд "Рэнесанс") і вырашыць асабіста для сябе: ну і чым "яны" лепей?..

Пасля канцэрта разыходзіліся стомленыя, але задаволеныя: ды нічым! І што ў іх адметнага? Той жа стыль, тая ж вопратка, былі б, прынамсі, неграмі... Вось у гэтым і хаваецца прынцыповая розніца: амерыканцам і ў галаву не прыйдзе ставіць сабе падобныя пытанні і мучыцца параўнаннем з іншымі музыкантамі. Пабліскваючы белымі зубамі, прытанцоўваючы, яны спакойна адпрацоўваюць сваю праграму, бадзёра паціскаюць рукі калегам, што працавалі побач і з усё той жа белазубай цярплівасцю дазваляюць памацаць і абстукаць свае інструменты мясцовым знаўцам музыкі.

Мабыць, яны б вельмі здзівіліся, даведаўшыся, з якой сур'ёзнасцю ў нас ставяцца да выканання традыцыйнага джаза. У Амерыцы дыксіленд і ўвогуле не лічаць за джаз — хутчэй, у іх гэта — народная музыка, як прыпеўкі ў Расіі. Мае спробы пачаць гутарку на гэту тэму з арганізатарам канцэртаў "Хотланта дыксіленд" у СНД, Прэзідэнтам асацыяцыі "Інтэрджаз" з Санкт-Пецярбурга Уладзімірам Феертагам былі адразу спыненыя:

— Для амерыканцаў дыксіленд — напаўнародная, напаўпрафесійная музыка, забаўная. У ёй не можа быць Чарлі Паркера, выканаўцы — нармальныя прафесійныя музыканты. Тут найважнейшым з'яўляецца шоу, тэатралізацыя — у жэстах, міміцы, пераходах ад аднаго інструмента да другога. Толькі надзвычай адораная асоба, да прыкладу, Луі Армстронг, здольная стварыць тут свой індывідуальны стыль, астатнія ж у асноўным падобныя да яго.

**— А ці папулярны "Хотланта дыксіленд" у Амерыцы?**

— Пасля смерці Армстронга ніводны амерыканскі ансамбль, які іграе ў традыцыйным стылі, не карыстаўся такім попытам. Штогод "Хотланта дыксіленд" удзельнічае ў буйнейшых амерыканскіх фестывалях і гастралюе па Еўропе. Музыканты запісалі тры кампакт-дыскі, неаднаразова ўдзельнічалі ў розных тэлешоу, здымаліся ў музычных фільмах. Як лепшы аркестр штата дыксіленд штодзённа выступаў у рамках культурнай праграмы на нядаўніх Алімпійскіх гульнях у Атланце.

**— А гастролі па СНД — Вашая ідэя?**

— Не. Іх кіраўнік паведаміў мне, што яны будуць удзельнічаць у польскім фестывалі, праз некалькі дзён едуць у Хельсінкі і вельмі б хацелі наведаць Расію. Дамовіўшыся пра сустрэчу на мінскім вакзале, я раптам атрымоўваю ад іх факс: "А на якім вакзале? У Мінску восем вакзалаў — "Інстытут культуры", "Кастрычніцкая", "Акадэмія навук" і г.д. Аказваецца, у амерыканскім даведніку такім чынам абазначаны станцыі метро.

**— Значыць, яны ўжо здагадваліся пра існаванне Рэспублікі Беларусь?**

— Даведаліся пра гэта, калі за расейскую візу папрасілі сорак долараў, а за беларускую — пяцьдзесят.

**Ганна АЛАДАВА**

*Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь член рэдакцыйнай калегіі газеты "Культура" Валерый Карлавіч ГЕДРОЙЦ прызначаны намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь.*

*Калектыў рэдакцыі шчыра віншуе Валерыя Карлавіча і зычыць яму поспехаў на новай пасадзе.*

***"Культураўцы"***

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ

### *Прысвячаецца Ядзвізе ГРЫГАРОВІЧ*

*Дактары, кандыдаты навук —*
*жабракі на зыходзе стагоддзя...*
*На маёй Беларусі згараюць надзеі апошнія дні...*
*Але ў нашай краіне, у таленавітым народзе*
*Выратоўным узорам заўсёды жанчыны былі.*
*Яны славу далі нам, жыццё і адвечную памяць,*
*Што не згіне ў вяках, што не стане калючай мяжой.*
*Ніякая навала гэту памяць ніколі не спаліць,*
*І з каленяў падыме*
*Жанчына з беларускай душой.*

**Лілія ДЗЯМЕШКА**

***Рэдакцыя газеты "Культура" далучаецца да віншаванняў з нагоды юбілею рэктара Беларускага універсітэта культуры Ядзвігі Дамінікаўны Грыгаровіч і зычыць ёй плёну ў працы.***

## У КАГОРТУ НАРОДНЫХ І ЎЗОРНЫХ

За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый надаць наступным калектывам ганаровыя званні

***"НАРОДНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ"***

— драматычнаму калектыву Вялікакруговіцкага сельскага Дома культуры Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці;

— харавому калектыву выкладчыкаў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта;

— мужчынскаму вакальнаму ансамблю Жабінкаўскага гарадскога Дома культуры Брэсцкай вобласці;

— хору народнай песні Малецкага сельскага Дома культуры Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці;

— ансамблю народнай музыкі "Налэнч" Пінскага вучылішча мастацтваў Брэсцкай вобласці;

— Ансамблю народных інструментаў выкладчыкаў Ляхавіцкай музычнай школы Брэсцкай вобласці;

— тэатру мініяцюр Шумілінскага гарадскога Дома культуры Віцебскай вобласці;

— ансамблю народных інструментаў дзіцячай музычнай школы № 1 імя П.Чайкоўскага г.Гомеля;

— ансамблю гітарыстаў дзіцячай музычнай школы № 2 г.Мазыра Гомельскай вобласці;

— ансамблю народнай музыкі і песні "Сустрэча" Гомельскага музычна-педагагічнага каледжа;

— публіцыстычнаму тэатру паэзіі "Неспакойныя сэрцы" прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 74 г.Гродна;

— ансамблю песні і музыкі "Весялуха" Зэльвенскага раённага Дома культуры Гродзенскай вобласці;

— ансамблю народнай песні "Званочкі" Дзярэчынскага цэнтральнага Дома культуры Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці;

— хору сельскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча №191 г.п. Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці;

— танцавальнаму калектыву "Бліскавіца" Слаўгарадскага раённага Цэнтра культуры Магілёўскай вобласці;

— студыі выяўленчай творчасці "Чырвоны Бор" дзіцяча-юнацкага Цэнтра народнай творчасці Фрунзенскага раёна г.Мінска;

— клубу "Юны мастак" Цэнтра пазашкольнай работы Кастрычніцкага раёна г.Мінска;

— вакальна-інструментальнаму ансамблю "Юнацтва" Комплексу пазашкольнай работы "Золак" г.Мінска;

***"УЗОРНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ":***

— харавому калектыву Брэсцкай музычнай школы № 2;

— харавому калектыву "Ліра" Івацэвіцкага гарадскога Дома культуры Брэсцкай вобласці;

— аркестру народных інструментаў музычнай гімназіі № 4 г.Брэста;

— аркестру народных інструментаў дзіцячай музычнай школы г.Лунінца Брэсцкай вобласці;

— дзіцяча-юнацкаму тэатральнаму калектыву "Балаганчык" Ваўкавыскага гарадскога Дома культуры Гродзенскай вобласці;

— драматычнаму калектыву сярэдняй школы № 1 г.Ваўкавыска Гродзенскай вобласці;

— хору "Камерата" Слонімскай дзіцячай музычнай школы Гродзенскай вобласці;

— духавому аркестру Парэцкай дзіцячай музычнай школы Гродзенскага раёна;

— ансамблю народнай музыкі "Ярыца" Магілёўскага абласнога Палаца піянераў і школьнікаў;

— харавому калектыву Буйніцкай школы мастацтваў Магілёўскага раёна;

— танцавальнаму калектыву "Паскакушкі" Кіраўскага раённага Дома культуры Магілёўскай вобласці.

Рэдакцыя газеты "Культура" шчыра віншуе самадзейных артыстаў і зычыць ім поспехаў на творчай ніве.



**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва "Юнацтва" Пазнякову Міхасю Паўлавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

## АБШАРЫ

# ШТО Ў ПАРТФЕЛІ МІНІСТРА?



Пост міністра культуры Расіі зноў даверылі Яўгену Сідараву. Аднак з прызначэннем яго на гэтую пасаду чамусьці не спяшаліся, што выклікала мноства чутак як на расійскім палітычным узвышшы, так і сярод творчай інтэлігенцыі, работнікаў устаноў культуры.

Указ аб прызначэнні міністра культуры пры фармаванні новага Кабінета міністраў Барыс Ельцын падпісаў адным з апошніх. І хоць Яўген Сідараў мае рэпутацыю "чалавека прэзідэнцкай каманды", яму давялося нямала пахвалявацца.

Палітычныя агялдальнікі схіляліся да думкі, што Міністэрства культуры можа ўзначаліць прадстаўнік апазіцыі. А калі Віктар Чарнамырдзін, выступаючы перад журналістамі, паабяцаў аддаць адзін з міністэрскіх партфеляў жанчыне, то адразу ж пачалі называць прэтэндэнтак — Ала Пугачова, Эліна Быстрыцкая, Надзея Бабкіна... Славутых жаночых постацяў і імён у сённяшняй расійскай культуры багата, і выбар "лепшай з лепшых" мог бы зацягнуцца яшчэ не на адзін месяц.

Развязка гэтай сітуацыі наступіла раней, чым яе чакалі. На мой погляд, прыемнае для Яўгена Сідарава рашэнне было прадыктавана наступнымі абставінамі. Па-першае, і Прэм'ер-міністр, і Прэзідэнт хацелі як мага хутчэй завяршыць фармаванне ўрада: складаныя сацыяльна-эканамічныя і палітычныя абставіны ў краіне не даюць выканаўчай уладзе права на перадышку. Па-другое, стан спраў у расійскай культуры, пры ўсіх відавочных мінусах яе развіцця, сёння шмат лепшы, чым, напрыклад, у эканоміцы ці сельскай гаспадарцы, і ў гэтым, безумоўна, ёсць пэўная заслуга самога кіраўніка культурнага ведамства. Па-трэцяе, Яўгена Сідарава, дзе б ён ні з'яўляўся, суправаджае слава міністра-дэмакрата, а падтрымка дзеячамі культуры Барыса Ельцына ў час выбарчай кампаніі была настолькі адчувальная і пераканаўчая, што прыход новай асобы на расійскі культурны Алімп стаў бы вялікай сенсацыяй і сведчыў бы аб непрадказальнасці кадравай палітыкі прэзідэнта і яго каманды. Па-чацьвёртае, "старога" міністра падтрымалі кіраўнікі культурных ведамстваў амаль усіх суб'ектаў Федэрацыі, за яго кандыдатуру выказалася шырокае кола сусветна вядомых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі ад Мсціслава Растраповіча і Мікалая Пятрова да Юрыя Нікуліна і Віктара Астаф'ева, а таксама, што бывае даволі рэдка, — яго бліжэйшае акружэнне, калегі з роднага міністэрства (мяркуючы па публікацыях у прэсе, асаблівай актыўнасцю тут вызначаўся намеснік міністра Міхаіл Швыдкой). Нарэшце, сваё "моцнае" слова сказалі сродкі масавай інфармацыі, прыгадаўшы, што Сідараў — прафесіянал, у міністэрскае крэсла сеў, пакінуўшы пасаду рэктара Літаратурнага інстытута, што ён першы пасля Луначарскага міністр культуры Расіі, які адрознівае ямб ад харэя, імажыстаў ад імажыністаў.

Цяпер, калі прызначэнне адбылося, усё гэта адыходзіць за кулісы палітычных і культурных падмосткаў, а на авансцэну жыцця выходзіць яе вялікасць Расійская культура з усімі яе бліскучымі дасягненнямі і "тоўстымі" праблемамі. Яўгену Сідараву не патрэбны час на агледзіны сваёй культурнай гаспадаркі. Ён добра ведае, што ляжыць у яго міністэрскім партфелі, што і як трэба рабіць на культурнай дзялянцы Расіі. У распараджэнні міністра і яго паплечнікаў — выдатныя духоўныя і культурныя традыцыі, шматвяковы і шматгранны вопыт культурнага будаўніцтва, карысная практыка кіравання культурнай сферай у апошнія гады, якія спрыяльнымі для развіцця культуры не назавеш.

Быць міністрам культуры ў краіне Аляксандра Пушкіна і Валянціна Распуціна, Пятра Чайкоўскага і Георгія Свірыдава, Фёдара Шаляпіна і Алены Абразцовай, Уладзіміра Высоцкага і Мікіты Міхалкова, многіх іншых зорак першай велічыні, што ззяюць у культурнай прасторы Сусвету, — справа, вядома ж, нялёгкая. Планка расійскай культуры ўзнята высока, і міністр не мае права апусціць яе ніжэй. Хутчэй за ўсё яму хочацца падняць гэтую планку яшчэ вышэй, але час, які выбраў менавіта яго, Яўгена Сідарава, наўрад ці дае яму такі шанц.

Глыбокі сацыяльна-эканамічны крызіс, які перажывае сёння Расія, самым негатыўным чынам адбіваецца на культуры, трымае яго ў такіх цісках, што ў міністра "баліць" галава перш-наперш пра тое, як захаваць расійскую культуру ад разбурэння, зберагчы і перадаць наступным пакаленням велізарныя культурныя набыткі папярэднікаў. На падтрымку культуры ў першым паўгоддзі ў федэральным бюджэце прадугледжвалася каля 900 мільярдаў рублёў, а фактычна атрымана толькі чацвёртая частка гэтай сумы. Законам аб бюджэце ў 1996 годзе для расійскай культуры гарантаваны толькі адзін артыкул — заработная плата. Вось і думай, міністр, якія выбраць прыярытэты, куды ў першую чаргу накіраваць выдзеленыя мізэрныя сродкі.

Апошнім часам голас у падтрымку культуры гучыць усё мацней. Сёй-той параўноўвае яе сённяшнія праблемы з праблемамі нацыянальнай бяспекі. Пэўныя надзеі звязваюцца са створаным нядаўна Саветам па культуры і мастацтве пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі. Дзеячы культуры папрасілі кіраўніка дзяржавы самому ўзначаліць гэты савет, разлічваючы на тое, што дзяржава возьме на сябе рэальныя абавязацельствы па падтрымцы культурнай сферы.

Істотных змен у структуры федэральных органаў выканаўчай улады, якія займаюцца культурай, пасля прэзідэнцкіх выбараў не адбылося. Скасавана Федэральная служба Расіі па захаванні культурных каштоўнасцяў, яе функцыі перададзены Міністэрству культуры Расійскай Федэрацыі. Два роднасныя ведамствы, якія таксама працуюць на культуру, атрымалі новы статус. Камітэт Расійскай Федэрацыі па кінематаграфіі пераймянаваны ў Дзяржаўны камітэт Расійскай Федэрацыі па кінематаграфіі, а Камітэт па друку — у Дзяржаўны камітэт Расійскай Федэрацыі па друку.

Кіраўніка расійскага міністэрства культуры добра ведаюць у Беларусі. Яўген Сідараў прыхільна ставіцца да беларускай культуры, неаднаразова прыязджаў у нашу краіну для ўдзелу ў культурных форумах, падтрымлівае асабістыя кантакты з многімі літаратарамі і дзеячамі мастацтваў Беларусі. Добрыя ў яго адносіны і з калегамі з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Беларуска-расійскія культурныя сувязі развіваюцца на аснове падпісанага міжурадавага пагаднення, а таксама пратакола аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры абедзвюх краін.

Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, які падпісаны 2 красавіка 1996 года, вымагае ад абодвух бакоў яшчэ больш актыўных высілкаў. Далейшае беларуска-расійскае культурнае супрацоўніцтва будзе вызначацца імкненнямі да агульнай культурнай прасторы і больш эфектыўнага выкарыстання супольнага духоўна-культурнага патэнцыялу ў інтарэсах народаў абедзвюх суверэнных дзяржаў.

**Іван КАРЭНДА**

*г.Масква*



# СУСТРЭЧА Ў НОЎГАРАДЗЕ

## *Сёлета ў старажытным Ноўгарадзе (з 26 па 31 жніўня) праходзіў VI Міжнародны кангрэс славянскай археалогіі*

Гэтая падзея мае сваю цікавую перадгісторыю. Пасля разгрому фашызму ў Еўропе, які разглядаў славян у якасці "недачалавекаў" і метадалагічна, як мог, усімі сродкамі знішчаў тысячагадовую славянскую культуру (дастаткова згадаць блакаду Ленінграда ці разбурэнне Варшавы), ва ўсіх славянскіх краінах пачаўся росквіт славяназнаўства. І найперш гэта былі этнаграфія і археалогія.

Развіццё археалагічнай славістыкі назіралася не толькі ў славянскіх краінах, але і ў Венгрыі, Румыніі, ГДР і Аўстрыі, дзяржавах, на тэрыторыі якіх у раннім сярэднявеччы жылі славянскія плямёны. Таму ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў паўстала неабходнасць аб'яднаць намаганні шматлікіх даследчыкаў славянскай гісторыі з розных краін.

А пачалося ўсё з сімпозіума па славянскіх старажытнасцях, які арганізавалі польскія археолагі ў Кракаве. Потым стварылася Міжнародная унія славянскай археалогіі на чале з акадэмікам Б.Рыбаковым. Яна і правяла ў верасні 1965 г. у Варшаве І міжнародны кангрэс славянскай археалогіі. Потым былі кангрэсы ў Берліне (1970), Браціславе (1975), Сафіі (1980), Кіеве (1985). І вось нарэшце пасля 11-гадовага перапынку, звязанага з распадам СССР, Югаславіі і Чэхаславакіі, у новай Расіі адбыўся VI кангрэс. Бадай, самы прадстаўнічы, бо ў ім бралі ўдзел больш чым 400 навукоўцаў з 22 краін свету. Беларуская дэлегацыя глядзелася даволі ўнушальна — каля 30 даследчыкаў, і не адно толькі з Мінска, але і з іншых гарадоў краіны. Кіраўнік дэлегацыі доктар гістарычных навук, прафесар Георгій Штыхаў атрымаў ганаровае права выступіць з дакладам на пленарным пасяджэнні кангрэса.

Удзельнікаў кангрэса вітаў мэр Ноўгарада, які, дарэчы, перадаў мясцовым археолагам чэк на 50 мільёнаў рублёў — дзеля працягу раскопак у Ноўгарадзе. Былі зачытаны вітальныя тэлеграмы ад Барыса Ельцына і прэзідэнта Расійскай Акадэміі навук.

Наша дэлегацыя вылучалася тым, што арганізавала вялікую кніжную выставу беларускіх археалагічных выданняў за апошнія гады. Гэтыя кнігі былі перададзены ў дар бібліятэцы Ноўгарадскага музея-запаведніка. Актыўна ішоў продаж шматлікіх археалагічных манаграфій і зборнікаў нашых даследчыкаў. Расійскіх ды іншых замежных спецыялістаў не бянтэжыла і ніякім чынам не спыняла пры набыцці беларуская мова гэтых выданняў. Бо сапраўдная навука не мае штучных межаў і, мусіць, галоўнае не мова, а змест той ці іншай публікацыі.

Дарэчы, працоўнымі мовамі на кангрэсе акрамя англійскай і нямецкай былі ўсе славянскія. Прыкладам, на архітэктурнай секцыі гучалі руская, беларуская, польская, украінская, славацкая, сербская, балгарская і нават македонская мовы. І менавіта на такіх мерапрыемствах адчуваеш усю моц і хараство суквецця славянскіх моваў, што плаўна перацякаюць адна ў другую.

Вельмі насычанай была і культурная праграма. Расійскія калегі паказалі гасцям шматлікія ноўгарадскія помнікі гісторыі і культуры, музеі, месцы праведзення раскопак. Вельмі ўразіла, што былы Ленінскі праспект у Ноўгарадзе цяпер называецца Вялікая Маскоўская вуліца. Але чаго здзіўляцца? — Ва ўсім горадзе вуліцам і завулкам вернуты іх спрадвечныя гістарычныя назвы. А каб людзі на першым часе не блыталіся, побач з новай назвай вісяць шыльды з ранейшымі найменнямі нядаўняй савецкай рэчаіснасці.

На заканчэнне ўдзельнікі кангрэса сфатаграфаваліся на фоне Ноўгарадскай Сафіі і Помніка тысячагоддзя Расіі, дзе, дарэчы, ёсць выява герба "Пагоня" і мужныя постаці нашых славутых князёў Гедыміна, Альгерда і Вітаўта.

Працы шматлікіх секцый па розных перыядах славянскай археалогіі, "круглыя сталы", калоквіумы — усё гэта прысвячалася такім надзвычай важным праблемам, як станаўленне раннесярэднявечных гарадоў, метадцы этнагенетычных даследаванняў, фармаванню славянскіх народнасцяў.

З часам усе навуковыя даклады, прачытаныя на секцыях і пленарных пасяджэннях, а таксама стэнаграмы навуковых спрэчак на "круглых сталах" будуць выдадзеныя асобным зборнікам.

Такім чынам, славянская археалогія атрымала новы штуршок у сваім развіцці. І хочацца спадзявацца, што ў дваццаць першым стагоддзі старажытны Мінск, або які іншы беларускі горад, таксама зможа на некалькі дзён сабраць на чарговы кангрэс лепшых прадстаўнікоў славянскай археалогіі з усяго свету.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры.**

## ПАД НІЗКІМ НЕБАМ

# У ПОШУКАХ ААЗІСА

***Выглядае на тое, што чарнобыльская праблема сёння пачынае станавіцца нямоднай. Гэта і нядзіўна: усе магчымыя прэстыжныя прэміі ўжо, бадай, атрыманыя, рэзерв гучных словаў на гэты конт вычарпаны, а процьма літаратурных, мастацкіх і публіцыстычных кан'юнктурных фальшывак на "гарачую тэму", здаецца, пахавала пад сабой усё нешматлікае сапраўднае. Дый і не да Чарнобыля цяпер нашым суплеменнікам: сваіх праблемаў хапае. А між тым, на чарнобыльскім фронце ўсё без перамен.***

***Апошняе каторы раз засведчвае нядаўна зняты кінакампаніяй ЛОН і рэжысёрам Юрыем Хашчавацкім тэлефільм "Аазіс". Гэтая стужка прысвечаная збольшага тым людзям, якія засталіся, па розных прычынах, на забруджаных тэрыторыях. На тле ўсёй падобнай прадукцыі яна выглядае даволі наватарскай, хаця не бракуе там і ўжо абрыдлага ўсім пафасу.***

***Аб дастатковай вартасці твора сведчыць хаця б тое, што 27 красавіка ён адкрыў Міжнародны фестываль дакументальных фільмаў у Мюнхене, чаго з беларускім кіно дагэтуль не здаралася, і ў гэты ж прыблізна час трансліраваўся па некалькіх буйных тэлеканалах, ад ОРТ да франка-нямецкага "Артэ". Беларуская ж версія фільма была зробленая за кошт ганарару аўтарскай групы і перададзеная БТ у дар.***

***Карэспандэнт "Культуры" Ілля Свірын гутарыць з аўтарам ідэі і сцэнарыя стужкі Віталем СЯМАШКАМ .***

**— Складваецца ўражанне, нібыта пра Чарнобыль было ўжо сказана ўсё, што толькі можна, гэтая тэма нават паспела набіць аскоміну. Ці ты ўпэўнены, што "Аазіс" прамовіць тут новае слова?**

— Чарнобыльская тэма дагэтуль на Беларусі сур'ёзна не асвятляецца. Як у былыя часы да ўрачыстых датаў з'яўляліся перадавіцы ў газетах, так цяпер перад чарговай гадавінай аварыі выходзіць шэраг "публікацыяў з нагоды". Ці ёсць сёння хоць у адным выданні, на радыё, на тэлебачанні нейкае сталае, так бы мовіць, чарнобыльскае акно? Не. Я лічу, што чарнобыльская аварыя працягваецца, бо ліквідацыі наступстваў да канца не адбылося. Мы ж яшчэ не так добра нават ведаем гэтага звера, каб кваліфікавана і маштабна з ім змагацца. У нас дагэтуль няма журналістаў, якія б паглыблена адлюстроўвалі гэтую тэму. Тут мне ўзгадваецца, як пасля аварыі ўручалі наменклатурныя прэміі Саюза журналістаў СССР. З адным з лаўрэатаў размаўлялі неяк на падпітку. Ён апавядаў пра свае ўражанні ад наведвання зоны, яны былі надзвычай сумнымі і кранальнымі. Я сказаў: ты ж столькі ведаеш, столькі бачыў, дык апішы гэта ўсё, каб людзі пачалі разумець, што адбываецца! Чаму ты гэтага не робіш?

**— А калі ты сам усвядоміў гэтую неабходнасць гаварыць пра зону?**

— У 1986 годзе я па размеркаванні патрапіў у Гомель. І, натуральна, неяк праз мяне гэта ўсё прайшло. Бо з дня аварыі ў нас, фактычна, дзве Беларусі. Гомельшчына, Магілёўшчына —гэта другая, іншая Беларусь. Іншая псіхалогія, іншы светапогляд. І мы таго не разумеем напоўніцу, жывучы ў "чыстай" зоне.

Тры гады таму праездзілі разам з "Беларускай маладзёжнай" дзве тысячы кіламетраў па гэтых абласцях. Першае ўражанне ад зоны — адчуванне вялізнага болю. Памятаю, калі мы ўязджалі на яе тэрыторыю, вечарэла. І ўсе мы маўчалі, проста не маглі гаварыць! Раптам я ўбачыў агонь, які ўздымаўся з зямлі. Мы сустрэлі нейкага чалавека, і ён сказаў, што падпалілі самі тутэйшыя жыхары. Навошта? А каб і ў Мінску разумелі, што такое Чарнобыль. Каб кепска было не толькі ім. Падпаленая зямля літаральна за колькі гадзін павышае ўзровень радыяцыі ў тры разы. А потым — у дзесяткі разоў.

Тады я меркаваў зрабіць марафон пра тое, як ліквідуюцца наступствы аварыі на ЧАЭС. Праехаўшы тыя дзве тысячы кіламетраў, я зразумеў, што нельга казаць пра нейкую ліквідацыю. Ліквідаваць можна толькі тады, калі сказаная праўда, і гэтая праўда прадугледжвае дзеянне. А Чарнобыльская аварыя на ўзроўні як сумлення, так і канкрэтыкі працягваецца.

**— У анатацыі да фільма зазначана, што апроч татальнай смерці ў феномене зоны прысутнічае і нешта яшчэ, нейкі таемны знак. Гэтая думка выглядае сапраўды новай. Што падштурхнула цябе да яе?**

— Вёска Баравая. Вакол дрыгва, мы дабіраліся на ўсюдыходах, бо іначай — немагчыма. Там жывуць людзі, якіх называюць старавeрамі, жывуць сваім жыццём, без электрычнасці, радыё і тэлебачання. Туды нават хлеб не зафвозяць. Кормяцца, чым Бог паслаў. Моляцца, гавораць, што ніякая радыяцыя іх не бярэ. Мы былі вельмі ўражаныя ўнутранай чысцінёй гэтых людзей, і адчуванне аазіса ўпершыню прыйшло там. Такое ўражанне, быццам ты патрапіў у гэткі невялічкі сусвет. Там няма справаў да таго, што адбываецца ў нашым тлумным свеце, жыццё ідзе па сваіх законах, і людзі здаюцца значна больш духоўнымі і ўвогуле чысцейшымі за нас.

Калі разважаць па-філасофску, чалавек праводзіць сваё жыццё ў пошуках асалоды. Таму ён часам не адчувае зямлі пад нагамі і неба над галавой. А там — месца, завіслае паміж зямлёй і небам, і ўся гэтая асалода гіпертрафіравалася ў смерць. Людзі зоны, як пісаў Алесь Разанаў, "народжаныя, каб не быць". Хтосьці з мудрых сказаў, што смерць толькі тады мае глыбінны сэнс, калі яна суправаджаецца нараджэннем. Зона — гэта смерць. Але зона ўяўляецца мне і як вяртанне, як знак, які вяртае нас да нейкіх першасных існаў маралі, духу... Там такое адчуванне, нібыта ўсё зло, якое нясе ў сабе чалавечая цывілізацыя, разам з ёй сышло кудысьці, адчуванне чыста энергетычнае, прыроднае, прадвесця новых Адама і Евы.

Зона заваражвае, і калі мы вярнуліся адтуль, усёй нашай здымачнай групе хацелася ізноў патрапіць туды.

**— Тыя людзі, што засталіся на забруджанай тэрыторыі... Як ты лічыш, яны жывуць па тых самых законах, як і мы, ці зона кардынальна змяняе іх?**

— Безумоўна, людзі там жывуць па-іншаму. Хаця там ёсць розныя людзі. Сярод жыхароў зоны можна знайсці як вышэйшыя праявы духу, я так лічу, так і найчарнейшыя праявы. Псіхалогія саўка дала там самыя жахлівыя рэцыдывы. Савок не любіць працаваць, ён любіць, каб яму ўсё падносілі на талерачцы. У зоне гэта грунтуецца яшчэ і на той упэўненасці, што мы, маўляў, усё адно смяротнікі. Так што давай нам тое, што трэба, дый за так! Увогуле, адносна жыхароў зоны. Я шмат думаў, чаму яны не пратэстуюць, не абараняюць свае правы. Чаму яны не ехалі яшчэ пры СССР штурмаваць Крэмль, чаму не крычаць урэшце на ўвесь свет пра сваё становішча. Але падчас размовы з тым мужыком, паводле словаў якога мясцовыя жыхары самі ўчынілі пажар, я зразумеў. У іх проста закасцянелая ўпэўненасць у тым, што ім ніхто па вялікім рахунку не дапаможа. А ведаеш чаму? Бо савок сам па сабе мяркуе, і ён проста разумее, што адбудзься катастрофа, напрыклад, у Гродзенскай вобласці, ён бы і пальцам не паварушыў, каб дапамагчы. Гэта псіхалогія смяротнікаў, дарэшты фатальная, з суіцыдальнай схільнасцю.

**— Скразны вобраз фільма — паўбомж-паўфілосаф міцькоўскага складу Валодзька Кандакоў са сваімі разважаннямі пра ўсё, што магчыма. Па-мойму, ён не надта падобны да саўка.**

— Валодзька — гэта, на мой погляд, новая псіхалогія зоны. Чалавек, які вярнуўся да нейкіх першародных вытокаў, які ідзе сваёй звярынай сцежкай, але, у той жа час, унармаваў шкалу ўласных маральных каштоўнасцяў. Чалавек, які лічыць за лепшае есці мяса дохлага сабакі, чым жыць у грамадстве, дзе любы міліцыянер можа падысці і па-садысцку цюкнуць "рэгулятарам перабудовы" па галаве. Валодзя разумее цану свабоды, і гэта найбольш уражвае.

**— А як такія людзі, як Валодзька, паставіліся да людзей з камерай?**

— Валодзька — адкрыты чалавек, у адрозненне, дарэчы, ад насельнікаў Баравой. Яму нальеш якіх трыццаць грамаў, усадзіш утульней на тапчан, і ён з радасцю і шчыра скажа ўсё, што думае. Безумоўна, вакол своеасаблівых перлаў было даволі і шалупіння, і выкрышталізаваць вобраз Валодзькі пры мантажы было дастаткова складана.

**— Мантаж фільма быў зроблены ў Маскве, а каштуе гэта, напэўна, нямала. Хто матэрыяльна падтрымаў вашую ініцыятыву і дапамог ёй рэалізавацца?**

— На тое, каб зняць "Аазіс", а здымалі мы яго на працягу года, былі патрэбныя, безумоўна, вялізныя фінансавыя сродкі, дзесяткі тысячаў долараў. Прадзюсеры В.Нікалайчык і Ю. Цыбін спачатку меркавалі рабіць усё ў нас на "Тэлефільме". Але нават мінімальную грашовую і тэхнічную дапамогу нашае тэлебачанне не змагло аказаць. Таму дзякуем за падтрымку Нямецкаму культурнаму цэнтру імя Гётэ. Яго дырэктар Вера Багальянц, з'ездзіўшы з намі ў зону, адчула ўвесь той чарнобыльскі боль, зразумела гэты знак, знак і для яе, немкі па паходжанні. І пакідаючы зону, яна разгублена развяла рукамі: "А як цяпер жыць?"

Гэтае вечнае пытанне ўяўляецца, бадай, банальным. Толькі вось адказ на яго не просты. Стваральнікі фільма далёкія ад палымяных прамоваў і заклікаў, яны проста даюць матэрыял для роздуму, па-мастацку яго пры гэтым асэнсоўваючы. А разважаць, адчуваць, і, урэшце, разумець — гэта ўжо справа гледача.

<u>**На атрыманне Дзяржаўнай прэміі**</u>

# У НАБАТНЫ ЗВОН

Экалагічнае забруджанне — гэта бомба запаволенага дзеяння. Ці ведалі мы пра гэта раней? Так, ведалі. Над праблемай экалогіі біліся не толькі вучоныя-адзіночкі, але і цэлыя навуковыя інстытуты, асацыяцыі, што засноўваліся ва ўсім свеце. Што да нашых вучоных мэтраў, то ім даўным-даўно трэба было біць ва ўсе рэйкі, званы і набаты, адліўшы з самай чуйнай трывогі, каб адкрыць вочы на тыя рэчы, пачварныя і небяспечныя, што хаваліся ад усіх нас.

Змагары за экалагічную чысціню прыроды не для прыгодніцкіх забаў пускаюцца ў падарожжы па лясах і рэках, пустынях і гарах, каб на свае вочы пабачыць, што менавіта дзеецца і адбываецца з імі. І нагледзеўшыся на розныя дзівосы, пакідаюць пэўныя запісы, дзённікі і назіранні. Пасля яны кнігамі выходзяць у свет, робяцца набыткам шырокай грамадскасці, грымяць, б'юць у набат трывогі, папярэджваюць: людзі, кіньце мурашыную валтузню з-за нейкай нязначнай палітычнай саломіны, а пільна азірніцеся, паглядзіце, што робіцца навокал, якая небяспека навісла над вашымі галовамі!

Усё гэта ў пэўнай ступені мы знаходзім на старонках публіцыстычна-дакументальнай кнігі Пятра Сабіны "Плач вады". У кнігу ўключаны нарыс-аповесць "Дняпроўскія плёсы". Што датычыцца жанравых асаблівасцей твора, то ў ім мы знойдзем дарожныя запісы — малюнкі прыроды і лірычныя адступленні, публіцыстычна-саркастычныя каментарыі і цікавыя дыялогі герояў, а таксама ўласныя развагі аўтара пра тое, што мы маем і што нас чакае ў будучыні.

У гэтай аповесці гаворка вядзецца не толькі пра экалагічны стан Дняпра, але і пра лёс нашых вёсак, нашых земляў. Што ж адбываецца з імі? Нічога ў заняпадзе. Вось руская вёска Ключыкі, непадалёк ад якой бярэ свой пачатак Дняпро-Славуціч. Раней гэта было мнагалюднае сяло, а цяпер тут засталіся лічаныя жыхары, дык і то сярод іх некаторыя прыезджыя, людзі са свету. Яны не хварэюць ні за вёску, ні за зямлю. Для іх абы дзень прайшоў, а там хай будзе, што будзе, хоць патоп. Землі зараслі лазой, пустазеллем. Ваўкоў, дзікоў развялося столькі, што з-за іх боязна нават днём прайсці лясной дарогай. Раней з гэтай нагоды трэба было б толькі радавацца. Якое можна было б наладзіць паляванне! Але людзям сёння не да гэтай забавы. Яны баяцца дванаццаціпудовых кабаноў-секачоў, якія могуць перашчыкнуць, як саломіну, жалезны прэнт, не кажучы ўжо пра чалавечую нагу ці руку. Вось і выходзіць, азвярэў, адзічэў, выйшаў са строю некалі ўрадлівы і багаты куток запаведнай зямлі.

Каб пераканацца ў тым, што Пятро Сабіна не імкнуўся да таго, каб высвеціць адно толькі чорнае дно Дняпра, усланае ўсялякім брудам, які пакідае пасля сябе чалавек, пачынаючы ад сцёкавых атрутных вод, на каторыя не скупяцца як новыя, так і старыя заводы і прадпрыемствы, што аснашчаны карлікавымі і маламоцнымі ачышчальнымі збудаваннямі і сістэмамі, і канчаючы ўсялякімі адыходамі і смеццем, — няцяжка ўбачыць, што ён ставіць перад сабой яшчэ адну задачу: паказаць непаўторную прыгажосць гэтага кутка, адкуль пачынае свой шлях славутая славянская рака. Варта толькі прыгадаць апісанне возера Гаўрылаўскага і царквы, якая стаіць, закінутая і забытая усімі, у вёсцы Белы Бераг.

Гэта незвычайная беларуская "адысея" пачынаецца з невялікага гарадка Дуброўна і праходзіць праз Оршу, Копысь, Ляўкі, Шклоў, Магілёў, Жлобін і шмат якія іншыя гарадкі і паселішчы. Колькі захаплення адчуваецца на старонках, дзе ён апавядае пра старажытны Копысь, яго знакамітую кафлю, якой захапляліся не толькі самыя прыдзірлівыя эстэты, але і цары і іх прыдворныя, паны і паненкі. Прыемна ўсведамляць, што кафля з Копыся карысталася шырокім попытам далёка за мяжой, пэўна, ці не ў самой нават далікатнай на той час Галандыі. А знакамітыя майстры Грыгор'еў і Максімаў аздабілі гэтай кафляй найлепшыя храмы ў Маскоўскіх землях у XVII стагоддзі.

Як жа збяднелі, здрабнелі і змізарнелі гэтыя адзінкавыя прадпрыемствы сёння! Апавядае пра іх аўтар, і душа не можа заставацца спакойнай, баліць і ные. Куды мы ішлі семдзесят гадоў, куды каціліся, за што змагаліся, гублялі не толькі багацце, але і не шкадуючы ўласнага жыцця. А што да экалогіі, то яна ў кожным горадзе і гарадку на адзін капыл: куды ні паглядзі, куды ні торкні пальцам: усюды адны прабоіны ды прарэхі, якія латаць — не пералатаць, перабудоўвае ды абнаўляць. На нашай тэрыторыі Дняпро ўжо зусім не Дняпро, а ночвы, у якіх, здаецца, толькі што вымылі ды апаласкалі горы камбінезонаў нафтавікоў-перагоншчыкаў. Тыя, хто як быццам павінен не спаць начамі, думаць і дбаць пра славутую раку, глядзяць на яе, як на нешта неістотнае і другараднае: маўляў, плыве ў берагах нейкі бруд, смярдзіць ён так, што ажно нос зрывае, ну і няхай сабе плыве, няхай сабе смярдзіць! Каб глядзець за ракой, на гэта маецца высокае начальства. Калі яно загадае ачысціць яе ад нечыстот, возьмуцца і ачысцяць. А пакуль ніхто не гаворыць пра Дняпро, то Бог з ім, відно, так і трэба гэтаму сівому старажылу: адгуляў сваё, адгойсаў, час класціся ў берагі, як у дошкі дамавіны! А як жа іначай! Так яно і павінна быць! Гэтаму спрыяла блізкае суседства таго тэхналагічнага страшыдла, той сучаснай пачвары, што, як сухоты, падточвала здароўе ракі. Заводы, фабрыкі і прадпрыемствы, — усе яны без выключэння, незлічона-галовыя змеі-гарынычы, якія патрабуюць кожную хвіліну, кожны міг усё новых і новых для сябе ахвяр. Яны, здаецца, знарок узведзены не нашымі першакласнымі спецыялістамі, а нейкімі шкоднікамі — прышэльцамі і злачынцамі з адной мэтай, каб як найхутчэй звесці са свету тутэйшую прыроду і яе прыгажосць, а землі зрабіць пустыняй.

Чытаючы старонкі "Дняпроўскіх плёсаў", прыходзіш да высновы, што з нашай ракой здарылася тое, што здарылася з Чарнобыльскай АЭС і трыццацікіламетровай зонай. Хаця аўтар з членамі своеасаблівай экспедыцыі не пабываў ні ў Чарнобылі, ні блізка каля яго, ён раз-пораз звяртаецца да катастрофы, якая адбылася ў ім. Пятро Сабіна піша: "Калючы дрот аперазаў зону, як быццам у ім з гэтага часу назаўсёды заблытаўся і ўтаймаваўся неўтаймаваны атам. Перасяленцам прапанавалі новыя пасёлкі, на хуткую руку збудаваныя, але, як потым высветлілася, і ў іх жыць рызыкоўна. Але, як ні дзіўна, дазвалялася. Акадэмікі Ізраэль, Булдакоў упарта пераконвалі, што калі забяспечыць людзей чыстым харчаваннем на працягу ўсяго жыцця, забараніць выкарыстанне сельгаспрадукцыі, якую яны атрымліваюць на падворках, можна будзе забяспечыць дозу ў 35 бэр".

Далей аўтар гаворыць пра тое, што ніхто не хацеў клапаціцца пра тых людзей і жыхароў, якія засталіся ў забруджаных зонах: не прывозілася ні каўбаса, ні тушонка. І людзі павінны былі харчавацца тым, што мелі. Але колькі ім ні пускалі ў вочы ўсялякага пылу і дыму, яны нарэшце зразумелі, што з імі гуляюць у небяспечныя гульні высокія вучоныя, патрыёты з патрыётаў, гуманісты з гуманістаў, вядома, у двукоссі. "Грамадскасць уся паднялася, — зазначае П.Сабіна. — Чарнобыльская бяда, як ніякая іншая, моцна зблізіла, паяднала людзей, паказала, якое кволае навакольнае асяроддзе, у якім мы жывём, і раптоўна неасцярожна можна яго загубіць".

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

СПАДЧЫНА

# МАЛЯВАНЫЯ ДЫВАНЫ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

*"Я па свеце хаджу,*
*Ды глухія куты украшаю...*
*... Ад працоўнага люда*
*свой хлеб зарабляю,*
*Люд працоўны мне працу*
*дае,*
*Ад паноў жа я працы*
*не маю,*
*Не патрэбна ім праца*
*мая".*
***Я.Драздовіч***

Маляваныя насценныя дываны з'яўляюцца найбольш вядомай і магутнай плынню ў творчасці Язэпа Драздовіча. Маляваныя дываны — гэта унікальны народны твор у дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве, які з'яднаў у сабе ўсю прыгажосць прыроды і бясконцасць жыцця з чалавечай марай, якую знайшоў і нарадзіў у сваім сэрцы Мастак. Нельга ўявіць зараз, "калі" і "кім" быў зроблены першы маляваны дыван на Беларусі, але добра вядома, што вытокі яго бяруць пачатак з самой глыбіні — з чыстых крыніц духоўнага жыцця на Беларусі.

Аднак паспрабуем вызначыць, якімі сродкамі і за кошт чаго маляваныя дываны Язэпа Драздовіча аказваюць моцнае захапляючае эстэтычнае ўздзеянне на пачуцці і разуменне чалавека.

Першае ўражанне, якое выклікаюць дываны , будзе, магчыма, здзіўленне самой мастацкай формай і матэрыялам, у якім выкананы твор. Малавядомасць для сучасніка гэтага накірунку ў дэкаратыўным мастацтве Беларусі тлумачыцца вельмі абмежаваным гістарычным часам распаўсюджання самаробных маляваных дываноў у краіне. Гэта прыкладна 1930-я — пачатак 1950-х гадоў, і тэрыторыя, на якой яны бытавалі, мела хутчэй мясцовы, раённы характар, а бытавалі яны ў вёсках, раённых гарадах Беларусі, асабліва ў Глыбоцкім, Шаркоўшчынскім раёнах Віцебскай вобласці. Адной з асаблівасцей маляваных дываноў Я.Драздовіча з'яўляецца тое, што мастацкі ўзровень іх у параўнанні з другімі мастакамі, якія іх малявалі, быў значна вышэйшы. Самі дываны "дзядзькі Язэпа" былі своеасаблівым эстэтычным узорам прыгажосці сярод вяскоўцаў, без дываноў мастака, здаецца, нельга было ўявіць інтэр'ер сялянскай хаты ў гэтых вёсках.

Тое, што маляваныя дываны былі неабходнай культурнай патрэбай часу, сведчыць, што разам з самаробнымі дыванамі з'яўляюцца ў сярэдзіне 1950 — 1970-х гадоў фабрычныя маляваныя дываны. Але іх мастацкі ўзровень быў значна ніжэйшы за дываны Я.Драздовіча, А.Кіш (яна малявала непаўторныя дываны на біблейскія тэмы ў наіўным мастацкім стылі ў Слуцкім раёне ў 1930 — 1940-х гадах). Але галоўным, на маю думку, з'яўляецца тое, што творы Я.Драздовіча, А.Кіш, акрамя мастацкіх якасцей, мелі яшчэ глыбока насычаны духоўны змест. Гэты нябачны духоўны змест выклікаў у чалавека не толькі прыемныя пачуцці, хваляванні, але абуджаў у ім роздум аб вечных каштоўнасцях жыцця, вымушаў чалавека звяртацца да ўспамінаў аб гісторыі і духоўнай культуры народаў. Усё гэта накаплівалася ў чалавеку, і непрыкметна ён пачынаў асэнсоўваць жыццё мінулае і жыццё сучаснае, свой асабісты лёс і лёс сваёй краіны. Магчыма, гэтыя альбо іншыя разважанні чалавека аб боскім "Райскім садзе" (А.Кіш), як і ўспаміны аб гістарычнай мінуўшчыне каля "Тракайскага замка" (Я.Драздовіч), складаюць той нябачны духоўны ўзровеь, на якім пачынаюць вырастаць эстэтычныя пачуцці, узнікае невядомае разуменне жыцця, якога раней не было.

У рэлігійных, гістарычна-краязнаўчых, бытавых і прыродных сюжэтах на дыванах мастакі здолелі адшукаць у культурнай спадчыне народаў тое сапраўднае, тое вышэйшае, што складае глыбінныя архітыпічныя пласты эстэтычнага разумення чалавека, тыя мастацкія сродкі і формы, якія дапамагаюць сучасніку ўбачыць і адчуць сэрцам важнейшую ісціну — Святло духоўнага жыцця, якое толькі і можа складаць Разуменне і сэнс жыцця чалавека ва ўсе часы гісторыі.



Калі першае эстэтычнае ўздзеянне ад дываноў мы можам назваць "духоўным абуджэннем", то другое будзе яго далейшым развіццём і пераходам у суседнюю — рамантычную сферу фарбаў, гукаў і мараў, якая пакрыта загадкавым сімвалам мастацкага вобраза на дыване.

Ці ж не сімвалам з'яўляецца "Начны краявід з замкам"? Старажытны замак, як вобраз гісторыі Беларусі ва ўсёй яе моцы і велічы, які на працягу свайго жыцця шмат страчвае, але ж і шмат знаходзіць у сваёй матэрыяльнай духоўнай моцы. Безумоўна, ад таго, як шануе, як паважае народ сваю гістарычную спадчыну, як помніць пра сваё мінулае і што стварае для яе будучыні, будзе залежаць яго жыццё.

Свет месяца на небе, у вадзе — гэта сімвал памяці, сімвал духоўных пачуццяў, якія ідуць да нас ад продкаў прама ў сэрца, каб узбудзіць у ім забытую веліч і моц, каб ускалыхнуць у душы прыгажосць і неабходнасць вышэйшага жыцця чалавека.

Адзінокі паруснік у прасторы начнога возера — гэта ты, чалавек, які прыплыў у жыццё, але не ведаеш пакуль, што табе трэба рабіць.

Квітнеючыя чырвоныя, блакітныя, белыя кветкі, якія цягнуцца ўвысь, да сонца, — гэта сімвал абуджэння жыцця, сімвал надзеі чалавека на лепшае і прыгожае.

Выдатна перададзенае мастацкімі сродкамі рэалістычнае адлюстраванне прыроды ў патаемным моманце развіцця жыцця разам з кантрастамі колеру (чорнага і белага, чырвонага і чорнага), супрацьлегласцю вобразаў (начнога возера і квітнеючых кветак), сімвалічнасцю і разам з тым адзінай сувяззю ўсіх элементаў, вобразаў твора з адчуваннямі душы чалавека — усё гэта надае твору таямнічую і разам з тым прыемную асалоду жыцця, якое адчуваецца ў глыбіні душы чалавека. Магчыма, гэта духоўная асалода выклікае ў чалавеку "сугестыўныя здольнасці", якія накіроўваюць яго на нейкі сакрыты змест твора і выклікаюць у яго душы невядомыя (магчыма, забытыя) асацыяцыі.



Гэты ўнутраны стан душы, гэтае новае светаўяўленне і пачуццё чалавека хочацца назваць рамантычным. Рамантычная, нават паэтызаваная форма, настрой уяўлення мастацкага вобраза дапамагаюць чалавеку ахапіць, здавалася, немагчымае — ён дакранаецца да патаемных духоўных крыніц жыцця, да глыбінных пачуццяў душы чалавечай.

Эстэтычнае ўздзеянне маляваных дываноў на чалавека-гледача дапаўняецца дэталёвай мастацкай вытанчанасцю вобразаў, іх непасрэднай блізкасцю да гледача, якая заварожвае на момант чалавека і ўцягвае яго ў бясконцы карагод духоўнага, звышпачуццёвага жыцця, якое існуе ў сэрцы мастака, якое ён перадаў у сваім творы і якое павінна адгукнуцца ў сэрцы кожнага, хто не перастае хварэць душой за лёс чалавека на Зямлі, за духоўны стан чалавецтва, хто ўсе свае намаганні паклаў на тое, каб стварыць радасць іншым людзям, каб дапамагчы ім убачыць сапраўдны, невядомы пакуль для іх свет — вышэйшага духоўнага жыцця.

Імкненне данесці да другіх гэта сапраўднае пачуццё, вышэйшае разуменне жыцця мастак вырашае ў рамантычным вобразе на палатне,які яму дапамагаюць зрабіць яркія і насычаныя фарбы, якія "горят и светятся как яркие цветы... Каждая отдельная краска положена со всей возможной для нее силой, рядом с другими такими же сильными. Она должна дать всю возможную для нее выразительность, всю полноту напряженного чувства. Рядом с этим стоит вторая черта — стремление смешать и потушить то, что слишком ярко, говорит намеками, полутонами. Это любовь ко всем тем явлениям, которые дрожат как дуновенье, вспыхивают и гаснут, замирают и бледнеют, к тому, что полно романтических предчувствий и таинственной жизни". (В.Жирмундский.Немецкий романтизм и современная мистика. Сиб., 1914, с.35)



Нават у самы цяжкі, складаны час жыцця мастака, у яго не гублялася надзея, не знікала любоў да людзей, да незалежнага творчага жыцця. Нават тады, калі гаварыць, а тым больш маляваць тое,аб чым ты марыў, на што чалавек спадзяваўся, было немагчыма ў савецкай краіне. Незгінаемы часам і жыццём Я.Драздовіч піша тое, што заўсёды з'яўлялася духоўным крэда, асаблівай манерай мастака. "Любоў і вера. Люблю тое, у што веру, а веру ў тое, што люблю". (Я.Драздовіч. Дзённік. Маладосць, 1991. № 5, с. 127).

Максімальна напружаная грамадзянская, самасвядомая пазіцыя чалавека касмічных сусветаў, геніяльнага мастака, "беларускага Леанарда да Вінчы" (па словах яго сябра мастака П.Сергіевіча) падарыла ўсім, хто ведаў Я.Драздовіча, незабыўнае ўражанне і пакінула ў іх жыцці прыемны светлы ўспамін.

Жыццё кожнага чалавека адзінае і непаўторнае, непрадказальнае і неабмежаванае ў творчым пошуку.Безумоўна, не кожны чалавек можа стаць геніем, але свой духоўны дар, які ў яго ёсць,чалавек павінен знайсці і стварыць самастойна.

Эстэтычны феномен маляваных дываноў, як і астатніх твораў Язэпа Драздовіча — не выключэнне, а адзін з мастацкіх шляхоў развіцця духоўнага жыцця на Беларусі.



**Юрый ШАЙКОЎ,**
**супрацоўнік гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе".**

*На здымках: скульптурная кампазіцыя Ігара Голубева "Вечны вандроўнік"; дываны "Алень", "Месячны краявід з замкам" і "Два лебедзі".*

## АРХІЎ

# ГІСТОРЫЯ РАСПРАВЫ (ВЕРСІЯ N...)

"14 студзеня 1948, абсалютна сакрэтна. Таварышу Сталіну І.В., таварышу Молатаву В.М., таварышу Берыя Л.П., таварышу Варашылаву К.Я., таварышу Жданаву А.А.

Паводле паведамлення МУС Беларускай ССР, 13 студзеня б.г. у 7 гадзін 10 хвілін раніцы ў горадзе Мінску, на дарозе каля будоўлі трамвайнай лініі, якая ідзе з вуліцы Свярдлова на вуліцу Гарбарная, былі знойдзены два мужчынскія трупы.

Адказныя супрацоўнікі МУС Беларусі і Упраўлення міліцыі г. Мінска разам з судова-медыцынскім экспертам, якія выехалі на месца, выявілі два мужчынскія трупы, што ляжалі тварам ніц. Каля трупаў было шмат крыві. Вопратка, дакументы, грошы і каштоўнасці былі некрануты.

Забітымі аказаліся: Міхоэлс С.М., мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, народны артыст СССР, і Голубаў-Патапаў В.Г., член маскоўскай арганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў.У абодвух аказаліся паламаныя рэбры, а ў Голубава-Патапава таксама і правая рука ў локцевым выгіне.

Каля трупаў знойдзены сляды грузавых аўтамашын, часткова замеценыя снегам.

Паводле дадзеных агляду месца здарэння і першапачатковаму заключэнню судова-медыцынскіх экспертаў, смерць Міхоэлса і Голубава-Патапава наступіла ў выніку наезду аўтамашыны, якая ехала з павышанай хуткасцю і нагнала іх, едучы пад крутым схілам у накірунку да вуліцы Гарбарная."

Перад вамі фальшыўка. Не-не, цытаваны дакумент сапраўдны і знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі сярод іншых дакументаў, якія маюць агульны назоў "Асобая папка Сталіна". Аднак усё ў ім акрамя трагедыі, якая адбылася ў сярэдзіне студзеня 1948 года у Мінску, — хлусня. Хлусня, бо Сталін і яго найбліжэйшае атачэнне, атрымаўшы даклад С.Круглова, чакалі гэтага паведамлення. Чакалі вынікаў уласных дзеянняў... Даклад міністра Міністэрства ўнутраных спраў СССР уяўляе з сябе звычайную бюракратычную адпіску, якая павінна пераканаць — найперш наступныя пакаленні: тое, што адбылося, не больш чым трагічная выпадковасць, яна не мае нічога супольнага з расправай.

Апошнія дзесяць гадоў у прэсе неаднаразова публікаваліся матэрыялы, прысвечаныя прычынам смерці Саламона Міхайлавіча Міхоэлса. Абмяркоўвалася "тэхналогія" забойства, высвятлялася роля Голубава-Патапава, удакладняліся прычыны гэтага злачынства, якое сталася пачаткам расправы з Яўрэйскім антыфашысцкім камітэтам.

У Сталіна было дастаткова прычын, каб жадаць смерці Міхоэлсу. Больш за тое. Мы цудоўна ведаем: каб забіць чалавека ў тыя часы, зусім не патрэбна была прычына. Мільёны людзей адпраўляліся на смерць без усякіх на тое падстаў, а толькі таму, што зверху "спускаўся" план, і дзеля застрашэння жывых. Такою была ўнутраная палітыка, скіраваная на пошук усё новых і новых ворагаў радзімы. Мільёны людзей бязлітасна знішчаліся рэжымам, дзесяткі мільёнаў лёсаў былі зламаныя і скалечаныя.

Аднак акрамя артыштаў Сталін вельмі часта звяртаўся і да звычайнага знішчэння непажаданых яму людзей. Найперш гэта звязана, як нам падаецца, з тым, што ў многіх выпадках працэс над асобамі, якіх ведаў свет, мог быць успрыняты на Захадзе зусім не так, як хацелася б Сталіну. Савецкі Саюз пасля вайны стаў больш адкрыты для замежжа і, нягледзячы на "жалезную заслону", не мог заставацца гэткай жа закрытаю сістэмай, як у трыццатыя гады.

Смерць Міхоэлса ад няшчаснага выпадку ўсіх, хто ведаў яго як творцу і грамадскага дзеяча, агарнула вялікім жалем, але не выклікала абурэння. Ён быў занадта вядомы, каб яго судзілі, і таму ён быў асуджаны на "няшчасны выпадак".

Акрамя прычын, пра якія не раз згадвалася ў друку, у Сталіна была яшчэ адна, каб пазбавіцца ад Міхоэлса. Мае яна даўнюю гісторыю і сягае да першых месяцаў вайны. Сёння я хачу распавесці пра яе. Я не прэтэндую на ісціну ў апошняй інстанцыі і ні ў якім разе не хачу пераканаць чытача ў тым, што адшукаў адзіна верную прычыну гібелі Міхоэлса, але цвёрда ўпэўнены, што яна стаіць ў адным шэрагу прычынаў і знаходзіцца, бадай, не на апошнім месцы ў іх ліку.

У кастрычніку 1941 года, калі стала зразумела, што вайна набывае характар, што пагражаў самому існаванню СССР, Сталін выклікаў у Крэмль Міхоэлса і прапанаваў яму ўвайсці ў склад дэлегацыі, якая накіроўвалася ў ЗША для правядзення перамоў аб сумесных дзеяннях супраць Германіі. Міхоэлс павінен быў пераканаць амерыканцаў аб неабходнасці дапамогі Савецкаму Саюзу.

Саламон Міхайлавіч сустракаўся ў Амерыцы з лідэрамі яўрэйскай арганізацыі "Джойнт" і бізнесменамі, меў гутаркі з акцёрамі і фабрыкантамі, двойчы размаўляў з прэзідэнтам ЗША Рузвельтам. Ён пераконваў суразмоўцаў у тым, што ў выпадку перамогі Гітлера ў вайне з СССР гора і смерць непазбежна прыйдуць і ў дамы амерыканцаў; што вермахт зусім не будзе абяскроўлены ў барацьбе з Чырвонай Арміяй, на што спасяляліся працаўнікі саюзу з СССР. Можна смела сцвярджаць, што на ход перамоваў паўплывалі ў аднолькавай ступені і аўтарытэт Міхоэлса, і яго здольнасць пераконваць суразмоўцаў.

Дамовіўшыся пра пастаўкі, якія атрымалі назву праграмы па ленд-лізе, Міхоэлс не паехаў з Амерыкі і да снежня заставаўся ў ЗША, сачыў за выкананнем дамоўленасцяў.

Забягаючы наперад, скажу, што пасля вайны, калі дачыненні паміж былымі саюзнікамі па антыфашысцкай кааліцыі сталі больш чым прахалоднымі, афіцыйная прапаганда, з падачы Сталіна спрабуючы зменшыць унёсак Амерыкі, сцвярджала, што дапамога ЗША складала 4 працэнты ад усёй эканомікі вайны. Калі трымацца працэнтаў, гэта адпавядала сапраўднасці, але за працэнтамі стаялі лічбы, пра якія сталінская статыстыка адмыслова маўчала. На жаль, пра змест і памеры паставак не гаварылася і ў больш познія часы.

Перыядычна згадвалі пра адкрыццё "другога фронту" іранічна: прыкладам, называлі "другім фронтам" амерыканскую тушонку. Відаць, надышоў час паставіць усё на свае месцы і ўспомніць, што на самой справе ўяўляла з сябе праграма па ленд-лізе.

Па-першае, ЗША паставілі СССР легкавыя і грузавыя аўтамабілі — "вілісы" і "студэбекеры". Айчынныя аўтамабілі аналагічных класаў не вытрымалі выпрабавання вайной — яны былі не так мабільны, не такія манеўровыя і нярэдка ўяўлялі з сябе больш мішэнь, чым сродак перамяшчэння. Амерыканскія аўтамабілі склалі 80 працэнтаў усяго аўтамабільнага транспарту вайны.

Па-другое, 70 працэнтаў сродкаў радыёсувязі былі амерыканскай вытворчасці (у гэты лік уваходзяць 100 працэнтаў авіясувязі).

Па-трэцяе, дзякуючы ЗША ў бране савецкіх танкаў з'явіўся магній, які дагэтуль не выкарыстоўваўся. Паколькі распрацоўкі, звязаныя з магніем, пачаліся ў СССР толькі пасля вайны, пастаўкі магнію з ЗША складалі 100 працэнтаў.

А яшчэ ЗША пастаўлялі абмундзіраванне і абутак, харчы, куды ўваходзіла не толькі знакамітая тушонка, але і іншыя прадукты, неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці чалавечага арганізма. Калі армія накормленая, апранутая, абутая і добра ўзброеная, то ў яе больш шансаў на перамогу, чымсьці для паразы.

Гэтым я зусім не хачу прыменшыць ролю баявога духу і патрыятызму савецкіх людзей, якія перамагалі ворага вельмі часта не "дзякуючы", а "насуперак". Гэта ўсім вядома, і не пра тое наш аповед. Усе пасляваенныя гады роля амерыканскай дапамогі наўмысна прыніжалася, і час сказаць праўду пра значэнне ленд-лізу і ягонае месца ў перамозе над Гітлерам.

Саламон Міхайлавіч Міхоэлс зрабіў свой унёсак у перамогу, калі быў, па сутнасці, арганізатарам ленд-лізу. Відавочна з гэтае прычыны ён не мог мець ласку ад Сталіна. Мяркую, Міхоэлс расказваў праўду пра сапраўдную дапамогу з Амерыкі, бо лічбы, прыведзеныя мною, былі вядомыя людзям, далёкім паводле роду прафесіі і ад "абаронкі", і ад КДБ, задоўга да адкрыцця архіваў. Магчыма, размовы Міхоэлса на гэтую тэму сталі вядомыя Сталіну, і ён вырашыў пазбавіцца ад лішняга сведкі...

Паўтаруся, кажучы пра тое, што не лічу ўдзел у арганізацыі ленд-лізу адзінаю прычынаю забойства Міхоэлса, я ўпэўнены, што няўрымслівы, нецтаймоўны народны артыст СССР, кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, не мог застацца ў жывых і з гэтае прычыны.

У цішыні Данскіх могілкаў, удалечыні ад цэнтральных прысадаў, стаіць помнік, на якім на дзвюх мовах, злева направа і справа налева напісана: Саламон Міхайлавіч МІХОЭЛС.

**Рыгор КАРПІЛАЎ**



*Саламон Міхоэлс*

АРХІЎ

# ТВОРЧАЕ КРЭДА МАЙСТРА ВАКАЛУ

Здарылася так, што я аказаўся сведка жыцця і творчай дзейнасці вялікага майстра вакалу, уладальніка унікальнага голасу (магутнай актавы) — Царанкова Антона Іванавіча. Справа ў тым, што Антон Іванавіч — мой дзед, бацька майго бацькі. Да таго ж, гадоў дзесяць, а можа, трохі болей, разам з Антонам Іванавічам працавала мая жонка — Сцяфанава-Царанкова Людміла Пятроўна, заслужаная артыстка БССР. Трэба тут адразу зазначыць, што Антон Іванавіч пражыў доўгае, надзвычай няпростае жыццё. Тройчы кідалі яго за краты пры савецкай уладзе. Ні за што ні пра што ён адбыў у няволі аж семнаццаць гадоў, дачакаўся поўнай рэабілітацыі ў 1964 годзе. Паміж арыштамі, турмамі, канцлагерамі ён спяваў на сцэне Вялікага тэатра СССР, магутную актаву яго разносілі па свеце хвалі Кіеўскага радыё, грымела яна перад Вялікай Айчыннай вайною і са сцэны Беларускага опернага тэатра. Досыць старым ужо чалавекам аб'ехаў Антон Іванавіч разам з Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капэлаю БССР увесь Савецкі Саюз, спяваў на сцэнах амаль што ўсіх буйных гарадоў, многіх мястэчак і вёсак.

Зусім ужо старым чалавекам Антон Іванавіч часта сустракаўся з моладдзю і надзвычай цікава расказваў пра вялікіх музыкантаў, спевакоў, пра стваральнікаў высокай музыкі — кампазітараў. На адной з такіх сустрэч у Дзяржаўнай кансерваторыі прысутнічаў і я. Прапаную чытачам газеты "Культура" зроблены ў той час мой запіс аб ёй. Спадзяюся, ён дапаможа зразумець творчае крэда вядомага спевака.

* * *

Кожны месяц Міністэрства культуры даводзіла кіраўніцтву Беларускай харавой акадэмічнай капэлы творчы план. Згодна з гэтым планам, капэла павінна была даць дваццаць канцэртаў у месяц — "адпрацаваць сваю зарплату". Адзін такі канцэрт, прысвечаны памяці вядомага беларускага кампазітара Туранкова, адбыўся ў зале Беларускай кансерваторыі. На імпрэзу прыйшлі беларускія кампазітары і многія беларускія пісьменнікі, — знаёмыя Антона Іванавіча Царанкова, лепшага ў Беларусі і ў былой Расійскай імперыі баса-актавіста, баса-прафунда. Пасля канцэрта беларускі кампазітар Юрый Семяняка, які працаваў у харавой капэле канцэртмайстрам, папрасіў Царанкова падзяліцца сваімі развагамі пра музычнае мастацтва з гледачамі — студэнтамі кансерваторыі і музычнага вучылішча.

"Мая асаблівая любоў — сімфанічная музыка М.Глінкі, П.Чайкоўскага, А.Барадзіна, творы для фартэпіяна з аркестрам, іншыя аркестравыя жанры названых волатаў рускай музыкі і ў іх ліку М.Мусаргскага, М.Рымскага-Корсакава, С.Рахманінава, — распачаў свой аповед Антон Іванавіч. — Бадай найважнейшая мая любоў сярод сімфанічных твораў да Дзевятай сімфоніі Л. ван Бетховена, у якой здаецца, як нідзе, дзівосна спалучаецца магутнае гучанне аркестра з такім жа ўзлётным і радасным хорам. Гэты твор проста абагаўляю і яго аркестравыя, і асабліва харавыя і сольныя вакальныя часткі. Надзвычайна люблю сімфанічную музыку, некаторых сучасных (мо лепей сказаць, — блізкіх да сучаснасці) вялікіх рускіх кампазітараў — сапраўдных волатаў вялікай музыкі — С.Пракоф'ева і І.Стравінскага. Ад іхніх непадражальна цудоўных твораў адчуваеш якісці казачны навеў, і, здаецца, зусім невыпадкова многія з іх грунтуюцца на роднай гэтым кампазітарам рускай фальклорнай аснове; заўсёды адчуваеш, што імі геніяльна выкарыстоўваліся ў якасці творчых вытокаў не толькі рускія песенныя мелодыі і асобныя тэмы, але і матывы рускай гісторыі, і, вядома, народныя казкі. Творы гэтых волатаў рускай музыкі XX стагоддзя дарагія мне не толькі тым, што іхнія аўтары былі нашымі, а ў тым ліку маімі сучаснікамі, а, галоўнае, тым, што ў гэтых творах рускі дух, ад іх сапраўды "Руссю пахне". Ці дачакаюся ад майстроў беларускай музыкі твораў буйных музычных жанраў, якія ў такой жа ступені былі б прасякнуты беларускім нацыянальным духам



і ад іх бы пахла Беларуссю? Цяжка сказаць...

У самаацэнцы свайго музычнага, наогул, эстэтычнага густу я свядома аддаю належнае самому сабе і не лічу свае эстэтычныя прывязанасці якойсці сваёю заслугай, бо перакананы, што аб'ектыўная правільнасць мастацкага густу ў чалавека справа зусім натуральная, каб ёю ганарыцца: такім, гэта значыць, здаровым мастацкім густам, павінны, як я думаю, валодаць калі не ўсе людзі, то ва ўсякім выпадку, падаўляючая большасць."

Антон Іванавіч змоўк, крыху перадыхнуў і звярнуўся да залы: "Ёсць пытанні?"

Паднялася дзяўчына ў вялікіх акулярах, падобная на страказу. Адным пальцам яна падсунула да вачэй акуляры і сказала: "Вы тут многа гаварылі пра музыку расійскіх кампазітараў і зусім нічога пра нашу, беларускую..."

"Вымушаны са смуткам выказаць сваю далёка не станоўчую думку, якая камунікаму можа здасца крамольнай, а то і яшчэ горш, — адказаў Антон Іванавіч. — Наша Беларусь, на вялікі жаль, не здолела сілай сваіх кампазітараў зрабіць вартае яе, Беларусі (маю на ўвазе яе багацейшы музычны фальклор), уклад у сусветную музычную культуру, які б магчыма было лічыць роўным ці хоць бы такім, што набліжаўся да ўкладу вялікіх кампазітараў-класікаў Заходняй Еўропы і Расіі, або хоць бы Украіны. Праўда, не забудзем, што ў апошнія гады стаў вядомы шэраг твораў інструментальнай музыкі. Нават дайшла да нас беларуская опера буйнейшага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі "Ідылія". Дайшлі асобныя вакальныя і інструментальныя творы, напісаныя яшчэ ў XVII стагоддзі і нават раней кампазітарамі, што жылі ў Беларусі. Відаць, яны імкнуліся тварыць на аснове беларускага фальклору музыку, якая б улілася ў агульнае рэчышча. Гэтыя ўзоры, часта вельмі цікавыя і таленавітыя, на жаль, не атрымалі далейшага развіцця ў творчасці пазнейшых кампазітараў. Таму гаворка ідзе аб адсутнасці аж да сённяшняга дня беларускай музыкі, якая б улілася паводле сваёй значнасці ў агульнае рэчышча заходнееўрапейскай і рускай музыкі хоць бы ў некаторай ступені.

Першая спроба стварэння нацыянальнай оперы належала буйнейшаму польскаму кампазітару Станіславу Манюшку на тэкст В.Дуніна-Марцінкевіча "Сялянка" ("Ідылія"), пастаўленая на аматарскай сцэне ў Мінску ў 1852 годзе аўтарам лібрэта. Але першая беларуская опера С.Манюшкі засталася з'яваю эпізадычнай і, бадай, нават мала прыкметнай. Віната ў адсутнасці на Беларусі вялікай оперы і вялікай сімфоніі амаль нязначная прафесіянальная традыцыя ў музычнай творчасці беларусаў на працягу ўсёй нашай гісторыі. Багацейшы беларускі фальклор вельмі мала і недастаткова звяртаў на сябе ўвагу даследчыкаў і кампазітараў-прафесіяналаў, якія б у выпадку свайго захаплення здолелі б напісаць геніяльныя творы ў самых прэстыжных жанрах. Вядомы вялікія ўзлёты беларускай культуры ў гады позняга сярэдневечча, асабліва ў эпоху Адраджэння. Такімі ўзлётамі была, напрыклад, культурная дзейнасць вялікага Скарыны, літаратурная творчасць паэта М.Гусоўскага. Вядомы творчыя здабыткі і беларускай музычнай культуры ўжо ў эпоху барока і пазней. Але адсутнасць сапраўднай дзяржаўнасці, а таксама адпаведных палітычных падстаў, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай і Расіі, не далі магчымасці для дасягнення вяршынь музычнай культуры.

Мушу тут адзначыць, што, на маю думку, з нашых сучаснікаў толькі такія вялікія творцы рускай музыкі, як С.Пракоф'еў і І.Стравінскі могуць стаць у адзін шэраг з класікамі рускай і заходнееўрапейскай музыкі. Шмат цікавых, часам сапраўды высокамастацкіх узораў вялікай музыкі далі многія сучасныя дзеячы — рускага і іншых савецкіх народаў, у тым ліку і нашай Беларусі. Але ўсе яны — пры ўсім сваім вялікім таленце, нават найлепшымі ўзорамі сваёй творчасці — па мастацкай сіле, на жаль, так і не ўзняліся на ўзровень вялікай класікі. Не зрабілі ў музыцы такіх адкрыццяў, якія можна было паставіць на адзін узровень з адкрыццямі, зробленымі ў музычнай культуры свету вялікім Бетховенам, Гайднам, Моцартам, Вердзі, Чайкоўскім, Мусаргскім, Пракоф'евым і многімі-многімі геніямі гэтай кагорты. Нават новае слова дзеячаў нашай сучаснай музыкі адчуваецца, як відаць, толькі ў тэматыцы і жыццёвым змесце іхніх твораў, а часам толькі ў літаратурных тэкстах. Адным словам, у іхніх творах не адчуваецца таго, што так палоніць у творах вялікіх талентаў музыкі новага руху ў вынаходніцтве меладычных асноў сваіх стварэнняў.

Не сакрэт, што кожны чалавек, дасведчаны ў музычных адносінах хоць бы толькі праз наведванне спектакляў Беларускай оперы і канцэртаў нашай філармоніі, а таксама праз стаўшае прывычным, звыклым праслухоўванне грамафонных запісаў, добра ведае, што сустрэча з музычным шэдэўрам заўсёды прыносіць незабыўную асалоду, мастацкае задавальненне. Чулага да музыкі, улюбёнага ў яе чалавека ў такім выпадку ахоплівае своеасаблівы мастацкі роздум, які перадаецца яму праз твор ад музычнага генія, вялікага творцы — кампазітара, і напаўняе ні з чым не параўнальным захапленнем і радасцю.

Мне не давялося атрымаць афіцыйнай музычнай адукацыі. І пры ўсім гэтым, любоў мая да музыкі — аж да нейкага самазабыцця. І гэта адносіцца да класікі — рускай, нямецкай, славянскіх народаў — чэхаў, палякаў і бліжэйшых славянаў — украінцаў. Калі гаварыць пра сваё роднае, то лічу, што прафесіянальная беларуская музыка не дала яшчэ ўзораў сапраўды вялікага мастацтва. Я часта сустракаўся з нашымі маладымі людзьмі і заўсёды расказваў ім пра сваё ўспрыманне музыкі. Вельмі хацеў бы, каб мае разважанні былі хоць бы маленькаю прычынаю для таго, каб ускалыхнуць той туман, што непраглядна закрыў перад нашаю моладдзю сапраўдную прыгажосць высокай музыкі, каб яна, гэтая сапраўды вялікая музыка, прыносіла моладзі найвялікшае эстэтычнае задавальненне, на якое яна здольна ў найвышэйшай ступені.

**Яўген ЦАРАНКОЎ**



*На здымках: А.Царанкоў; Дзяржаўная харавая акадэмічная капэла БССР.*

# "НА БЕЛАРУСЬ МЯНЕ ПАКЛІКАЛІ "ПЕСНЯРЫ"..."

***Алім Мацвяйчук працуе на кінастудыі "Беларусьфільм" амаль дваццаць гадоў. У якасці мастака-пастаноўшчыка ён зрабіў 19 карцін, многія з якіх карысталіся вялікім поспехам у кіна- і тэлегледачоў. Сваё 50-годдзе Алім сустракаў у добрым творчым настроі. Ён толькі што скончыў здымкі фільма "З апраметнай у апраметную" пецярбургскага рэжысёра Д.Астрахана. Неўзабаве мастак пачынае працу над карцінай, якая будзе рэжысёрскім дэбютам вядомага акцёра Уладзіміра Гасцюхіна.***

**— Алім, ты ўкраінец, нарадзіўся на Жытоміршчыне, скончыў Феадасійскую дзіцячую мастацкую школу і Кіеўскую мастацкую вучэльню ўжытковага мастацтва. Чатыры гады праслужыў на Балтыйскім флоце, год адпрацаваў у пажарнай камандзе Ленінграда... Як атрымалася, што ты звязаў свой лёс з Беларуссю?**

— Пасля Ленінграда я паступіў на мастацкі факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі — пра прафесію мастака, дарэчы, я марыў з дзяцінства. Мяне вучылі цудоўныя педагогі: Мяснікоў, Няменскі, Шпінель. Маёй дыпломнай работай сталі эскізныя распрацоўкі да фільма "Бераг" паводле твора Бондарава. Пасля паспяховай абароны дыплома ўзнікла непазбежнае пытанне: куды ехаць? Доўга думаў, узважваў. І аднойчы па радыё раптам упершыню пачуў канцэрт "Песняроў". "Божа, — падумаў я, — "Белый аист летит..." — якія чыстыя і празрыстыя песні! Колькі ў іх пяшчотнага трапятання і душэўнай шчодрасці! Якая, мабыць, чыстая гэта краіна — Беларусь і якія там прыгожыя і добрыя людзі жывуць!" І я вырашыў: паеду на Беларусь. Сваякоў — няма. Але, напэўна, дапамагла матроская закваска — ні перад чым не спыняцца. Дамогся запрашэння з кінастудыі "Беларусьфільм" — і на цягнік!



**— І як цябе прынялі на кінастудыі?**

— Нармальна. Якраз у гэты час Чацверыкоў запускаў сваю карціну "Чорная бяроза", мастаком-пастаноўшчыкам быў Яршоў, які да гэтага зняў фільм "Бураціна" і "Пра Чырвоны Каптурык", а мяне ўзялі ў якасці мастака-дэкаратара. Потым была карціна "Родная справа" рэжысёра Сашы Яфрэмава, таксама выпускніка гэтага інстытута, з якім у мяне яшчэ ў Маскве былі добрыя стасункі: мы з ім рабілі разам курсавыя работы. Ён і запрасіў мяне працаваць мастаком-пастаноўшчыкам...

**— Так бы мовіць, твой дэбют у вялікім кіно адбыўся менавіта ў гэтай карціне. У якім годзе гэта было?**

— У 1977-м. А праз год адбыўся яшчэ адзін мой дэбют — ужо ў тэлевізійным кіно. Гэта быў фільм "Браты Рыко". Паставіў яго Гена Іваноў паводле аповесці Жоржа Сіменона.

**— На маю думку, Алім, у цябе не было ніводнага года прастою: "Траянскі конь", "Прададзены смех", "Вячэрняя казка", "Асацыяцыя", "Вогненны стралок", "Я — рускі салдат" і нават узбекскі фільм "Дзікун"...**

— Так. На "Дзікуна" мяне парэкамендавала Ташкенцкай кінастудыі наша чароўная Таццяна Логінава — бліскучы аператар і цудоўны чалавек. Але асаблівае месца ў маім творчым жыцці заняў Віктар Тураў, з якім я працаваў над буйным серыялам "Палеская хроніка" паводле рамана Івана Мележа. Яшчэ — над карцінай "Малодшы сярод братоў" паводле Бакланава. Потым мы разам здымалі беларуска-польскую карціну "Пераправа".

**— І як склаліся адносіны з Туравым?**

— Віктар Цімафеевіч — гэта высокапрафесійны рэжысёр, вельмі эрудзіраваны, які цудоўна арыентуецца на любой здымачнай пляцоўцы альбо на натуры. Карацей, ён прафесіянал у самым высокім сэнсе гэтага слова. Ён заўсёды ведае, чаго хоча, і можа пераканаць любога члена здымачнай групы ў тым, што рацыю мае менавіта ён, Тураў, бо так — сапраўды лепш. Хаця чалавек ён складаны.

**— І з Дабралюбавым ты працаваў?**

— Так, здымаў з ім "Плач перапёлкі" паводле Чыгрынава і "Эпілог" паводле Шамякіна. Чалавек ён вельмі інтэлігентны, чулы, добры, як рэжысёр умее прыслухоўвацца да меркавання і мастака, і аператара, і акцёра, што, павінен заўважыць, здараецца нячаста ў нашым кінапрацэсе, дзе рэжысёр звычайна выконвае партыю першай скрыпкі, а іншы раз робіцца і дыктатарам...



*Эскіз дэкарацыі да фільма "Малодшы сярод братоў".*

**— Твае самыя апошнія карціны?**

— "Сын за бацьку" Мікалая Яроменкі-малодшага і "З апраметнай у апраметную" Дзмітрыя Астрахана пра лёс габрэйскага народа ў гады вайны. Фільм толькі што закончаны.

**— Алім, што такое для цябе твор мастака кіно? Эскіз? Дэкарацыя? Кадр?**

— Ні першае, ні другое, ні трэцяе. Дакладней, усё гэта, але не толькі. Твор шырэйшы і большы за пералічанае. Тое, што ты назваў, гэта — толькі частка твора. Як роля акцёра — толькі частка карціны.

**— Добра, пастаўлю пытанне інакш. Мне даводзілася чуць наступныя выказванні: маўляў, парадаксальнасць творчасці мастака кіно ў тым, што чым лепей ягоная праца, тым яна больш непрыкметная.**

— Мне здаецца, гэта памылковае, дакладней, вельмі вузкае разуменне сэнсу працы мастака кіно. Безумоўна, у сапраўдным творы сінтэтычнага мастацтва павінны ўвасобіцца ўсе яго стваральнікі, але паўстае пытанне: да якой ступені? І потым, што значыць "больш непрыкметная"?

**— Мабыць, маецца на ўвазе наступнае: немагчыма адрозніць ад натуры, ад, калі так можна выславіцца, "праўды жыцця"...**

— "Паэзія — гэта тое, што застаецца, калі адыходзяць словы", — сказаў хтосьці з паэтаў. Гэты цудоўны афарызм мае непасрэдныя адносіны да кожнага віду мастацтва. І да творчасці мастака кіно — таксама.

**— Дык у чым усё-такі галоўная задача мастака-пастаноўшчыка?**

— Стварыць матэрыяльнае асяроддзе фільма, якое трэба разумець не як нейтральны фон, не як просты паказ месца дзеяння, а як элемент вобразнага вырашэння карціны, якое дапамагае раскрыць задуму твора цалкам. Наша праца, у прыватнасці, дэкарацыйны комплекс у карціне — не проста іграваая прастора. Гэта цэлы свет, свет эмацыйнага ўздзеяння, свет сацыяльнай арыентацыі, свет жыцця герояў у розныя часы, эпохі, у розных абставінах. Ад нас патрабуецца не толькі вызначэнне канкрэтнага вобразнага асяроддзя дзеяння, але і цэласнае бачанне ўсяго фільма, яго выяўленчай і рытмічнай пабудовы. Для гэтага мне даводзіцца працаваць у шчыльным кантэксце не толькі з рэжысёрам, але і з аператарам, які павінен знайсці самы лепшы і аптымальны пункт погляду свайго аб'ектыва на пабудаваны мною аб'ект.

**— Я нядаўна паглядзеў тваю карціну "Я — рускі салдат" паводле аповесці Барыса Васільева. І, павінен адзначыць, што мне было нялёгка выдзеліць тваю працу як мастака, разглядаць яе асобна ад драматургічнай задумы, рэжысуры і працы аператара. Бо ў гэтым фільме ўсё зніціаванае паміж сабою, дасягнута творчае адзінства, у якім твая праца, выяўляючы задуму рэжысёра і дапамагаючы аператару, набыла важнае самастойнае значэнне.**

— Дзякуй за добрыя словы. Карцінай я, сапраўды, як мастак задаволены, хаця здымкі ішлі даволі цяжка. Праўда, натуру абралі ўдала — у Калінінградскай вобласці здымалі "пачатак Вялікай Айчыннай вайны"...

**— Алім, што робіцца з макетамі, дэкарацыямі, эскізамі пасля заканчэння працы над карцінай?**

— На жаль, яны, зазвычай, знішчаюцца. Безумоўна, да болю шкада глядзець, як усё разбураецца. Захоўваць няма дзе, музея кіно пакуль што не існуе, хаця і ідуць размовы пра яго стварэнне. Ну, эскізы яшчэ могуць захавацца ў аўтараў — "на памяць" альбо для спецыяльных выстаў, астатняе ж — "пад нож".

**— Вельмі шкада. У нас, на Беларусі, цудоўныя мастакі кіно — Ігнацьеў, Альбіцкі, Дзяменцьеў, Назараў, Чартовіч, нядаўна пайшоўшыя ад нас Ганкін і Кубараў, і нашаму кінематографу ёсць чым ганарыцца...**

— Менавіта так. Але сёння ў кіно ідзе вельмі цяжкі і балючы працэс развіцця, зніціаваны з эканамічнымі праблемамі рынку, з адсутнасцю фінансавання новых карцін, няма грошай нават на рэквізіт, велізарныя падаткі і гэтак далей. У выніку ўсяго гэтага сёння на кінастудыі запушчаны ў вытворчасць толькі дзве (!) карціны. І такім чынам, лепшыя майстры кінематографа, у тым ліку і мастакі, не могуць нават напалову рэалізаваць свае творчыя магчымасці. Не кажучы ўжо пра мізэрны заробак...

**— Калі не сакрэт, якая сёння стаўка ў мастака вышэйшай кваліфікацыі?**

— Не паверыш — 970 тысяч рублёў, мінус — падаткі. А працаваць даводзіцца з раніцы да вечара, а іншы раз і па начах. Карацей, праца кінамастака жудасная. Толькі вялікая любоў да кінематографа, нягледзячы на буры і штормы, утрымлівае нас на палубе.

**— Пра што будзе фільм Уладзіміра Гасцюхіна?**

— Пра складаныя лёсы сірот з дзіцячых дамоў. Больш нічога дадаць не магу, каб не сурочыць. Праца толькі-толькі пачынаецца.

**— Ну, дык, творчых поспехаў вам абодвум і ўсёй здымачнай групе. Дзякуй за размову.**

**З кінамастаком Алімам МАЦВЕЙЧУКОМ сустракаўся Барыс КРЭПАК**

# ЯК АДЧУЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ



*Л.Пуцейка, А.Пуцейка. "Вясна", габелен.*

***Пасля наведвання выставы "Габелен і мастацкія тканіны" ў Нацыянальным мастацкім музеі ў мяне склалася ўражанне, што ў нас назіраецца тэндэнцыя вынаходніцтва ў гэтым відзе мастацтва. Больш за ўсё мне хочацца вылучыць працы, у якіх я адчуў новы поступ часу, яго колеры, нестандартнасць мыслення.***

Самыя смелыя ідэі, па-мойму, у мастачкі Людмілы Русавай. Яе праца пад назваю "Амбівалентны крыж" уяўляе сабой аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Адзінае, што не было прадумана арганізатарамі выставы — азнаямленне з гэтай працай. Мне падаецца, яна павінна разглядацца не з боку, а зверху. Я, напрыклад, размясціў бы яе на першым паверсе, каб з вышыні другога наведнікі маглі бачыць амбівалентнасць крыжа, усю яго фантастычнасць і каляровасць.

Падчас прагляду выставы, мяне не пакідала думка, што не хапае нейкіх стылізаваных столікаў, на якіх кожны мастак клаў бы невялікую колькасць матэрыялаў, што выкарыстоўваліся для работы над габеленам. Гэта дало б магчымасць гледачам памацаць рукамі гэтыя ваўняныя ніткі і як бы дакрануцца да самой працы — адчуць прыгажосць не толькі праз вочы, але і рукамі. Ці прапанаваў бы мастакам за кошт павелічэння платы за ўваход рабіць да сваіх прац нейкія экзатычныя стравы, напоі. Напрыклад, да чыстых восеньскіх матываў я б паставіў кактэйль з ківі і марозіва, а да постмадэрновых з новымі тэхнічнымі пошукамі, з бурлівым разбегам колераў, з новай фантастычнай вобразнасцю — кілішак з каньякам ці гарэлкай, ці гарэлку з півам, для дзяцей — незвычайную на смак ці па форме цукерку ці шакаладку. Нездарма ж жанчыны прыдумалі прымаўку: "Шлях да мужчынскага сэрца ляжыць праз страўнік". Тут магла атрымацца прымаўка: "Шлях мастацтва да гледача ляжыць праз страўнік, вочы і рукі". Без сумнення было б цудоўнае спалучэнне кулінарыі і габелена. Нешта падобнае спрабавалі рабіць у Віцебску на імпрэзе "Art-прагноз'96" літаратары, музыканты, харэографы, кулінары, фармаколагі і вядомы мастак Алесь Пушкін.

Я вельмі шкадую, што не ўбачыў працу Аляксандра Фалея — "Сорак восем квадратаў", яна была пазначана ў каталозе, але сама не выстаўлялася. Вакол гэтага габелена ўжо зараз ходзяць казачныя чуткі, што ён — жахлівы палавік, жахлівы авангард! Я думаю, калі ёсць такая рэакцыя, трэба абавязкова дамагацца дэманстрацыі працы.

Вылучаюцца дэкаратыўныя пано Антаніны Фалей — "Сілуэт" і "Кампазіцыя". Яны цікавыя ўжо тым, што зроблены пры дапамозе машыны. Тут лунае подых сучасных металічных канструкцый, чуецца свіст рэактыўных самалётаў, колеры, форма — усё ў разлёт, і ў той жа час прысутнічае нейкая выразнасць, запраграмаванасць лініі, схемы. Цікава, на мой погляд, тут атрымалася спалучэнне працы "Сілуэт" з тэкстылем Л.Кірылавай. Праз яркасць, яскравасць жаночых касцюмаў "Эксклюзіў" змрочнасць пано атрымлівае нейкую надзвычай цудоўную мастацкую насычанасць.



*А.Фалей. "Сілуэт".*

У цэлым выстава "Габелен і мастацкія тканіны" атрымалася. Барыс Крэпак калісьці напісаў:" ...тут работы мастакоў усіх пакаленняў, усе існуючыя формы дэкаратыўнага тэкстылю —плоская, рэльефная, аб'ёмная, разнастайныя тэхнікі, шырокі арсенал пластычных сродкаў, якія даюць магчымасць выказацца па мноству складаных праблем быцця на самым высокім мастацкім узроўні". Я ўпэўнены, гэтыя словы актуальныя і для названай выставы і да іх можна дадаць адно — мастацтва нацыянальнага габелена на Беларусі развіваецца.

**Зміцер ВОЛКАЎ**



*Л.Русава. "Амбівалентны крыж".*

КНІГАРНЯ

# З ЛЮБОЎЮ ДА КНІГІ, або Ў ІХ І Ў НАС...

***... Сярод святочнай і даволі шумнай атмасферы выставачных экспазіцый белы ў рудых плямах кот ляжаў на стале ціха і нерухома. "Які прыгожы кот!" — захоплена ўсклікнуў я і толькі пасля гэтага зразумеў, што ён — не жывы, а — выставачны экспанат, цацка... Не паспеў я ўсвядоміць гэтае адкрыццё, як мілая кабета ўжо сталага ўзросту, загадчыца экспазіцыі, мякка і нязмушана абрынула на мяне вадаспад інфармацыі. Пра казку, героем якой з'яўляецца вось гэты кот, пра аўтара казкі (таксама мілую кабету), пра ілюстратара твора, гісторыю гэтага цацачнага коціка. Кабета працягвала ўзбуджаць маю сімпатыю да экспаната і дайшла ўжо да заключнай фразы ("Купіце! Ён каштуе ўсяго адзінаццаць з паловай долараў), калі я, пагладзіўшы плюшавую, як мне здавалася, цацку, зразумеў нарэшце, як яна зроблена. Гэта ж проста звычайны камень, размаляваны з усіх бакоў майстрам з цудоўнейшым адчуваннем аб'ёму!***

***Прыкінуўшы на вока ягоную вагу, я адмовіўся ад набыцця "ўсяго за 11,5 долараў". Захапленне рэччу і зачараванне рэкламаю без цяжкасцей прывялі б да таго, што маючы — і гэта ў Нью-Ёрку! — усяго 80 долараў на ўсе бягучыя выдаткі на чатыры дні знаходжання там, я выклаў бы патрэбную суму, ды яшчэ б расплыўся ў шчаслівай усмешцы...***

Месца дзеяння: выставачныя экспазіцыі 115-й штогадовай канферэнцыі Амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі. Час дзеяння: 7 ліпеня 1996 года. Крыніца фінансавання паездкі на канферэнцыю: Рэгіянальная бібліятэчная праграма Інстытута адкрытага грамадства ў Будапешце, заснаванага Джорджам Сорасам, і Беларускі фонд Сораса.

Ці не так, трошкі незвычайная для нашага досведу дэталь бібліятэчнай канферэнцыі? ...А яшчэ з убачанага на выставачных экспазіцыях запомніліся дзіцячыя казкі і п'есы Шэкспіра ў выглядзе multi-media (друкаваны тэкст, відэа і аўдыё на адным кампакт-дыску), усе англійскія пераклады Біблії і Амерыканская энцыклапедыя на кампакт-дысках, плакат са звесткамі па выкарыстанні электронікі ў часе падвядзення вынікаў апошніх прэзідэнцкіх выбараў у ЗША... Пазбаўлю чытача ад пераліку спецыялізаваных баз дадзеных і камп'ютэрных сетак доступу да прафесійнай інфармацыі. Тут жа праводзіліся латарэі ("Апусці візітоўку і выйграй") — на бясплатныя часопісныя падпіскі, кнігі і нават апаратуру для бібліятэк, прычым пераслаць выйгрышу за мяжу для арганізатараў латарэй не праблема, і яны нясуць поўную адказнасць за дастаўку.

Незвычайным здавалася ўсё. Тое, што Амерыканская бібліятэчная асацыяцыя існуе 121-ы год (а нашая Беларуская зарэгістравана ў 1993 годзе), што гэтая грамадская арганізацыя мае сярэднегадавы бюджэт больш за 2,5 мільёна долараў і 275 супрацоўнікаў на ўтрыманні, што выставачная зала канферэнцыі ("ангар" — адзінае адпаведнае слова) складае 1600 экспазіцый, сярэдні памер многіх з іх параўнальны з памерам сярэдняй канферэнц-залы шараговага навукова-даследчага інстытута, што кожны год вось так можна наладжваць канферэнцыі з дваццаццю тысячамі ўдзельнікаў і дзвюма тысячамі пасяджэнняў (дзесяткі пасяджэнняў праходзілі, вядома, паралельна), што да канца 1996 г. у ЗША пройдзе яшчэ 37, праўда, не такіх маштабных, бібліятэчных канферэнцый.

Немагчыма было ўявіць сабе, што калектыўнае членства ў Асацыяцыі амерыканскіх бібліятэкараў — гэта дыхтоўны і эфектыўны спосаб укладання буйных грашовых сродкаў у рэкламу (кожнае паважаючае сябе выдавецтва і кнігагандлёвая фірма з радасцю ўкладаюць іх дзеля ўмацавання свайго прэстыжу; у нас жа калектыўнае членства — гэта спосаб зэканоміць грошы), што група добраахвотнікаў забяспечыць штодзённае выданне, прысвечанае канферэнцыі, і толькі ёй, на 24 старонках, якое будзе выходзіць штодзённа падчас яе правядзення; што ў ЗША існуюць не толькі фірмы біжутэрыі, але і ювелірныя фірмы, якія спецыялізуюцца на бібліятэчнай тэматыцы... Пасля ўсіх "чорных казак" пра "амерыканскую бездухоўнасць" і панаванне масавай культуры раптам пабачыць увачавідкі, што чытанне і бібліятэкі — гэта адзін з нацыянальных прыярытэтаў, даведацца, што лідзіруючыя ўзроставыя групы чытачоў бібліятэк — гэта людзі ва ўзросце 18-21 год і 8-11 гадоў, убачыць ідэальную прапаганду чытання і бібліятэк, для ўкаранення якой на радзіме няма ні фінансавых магчымасцяў, ні адпаведнага настрою ў дзяржавы...

"Чорны міф" аб прагматычнасці бібліятэчнай справы ЗША, у сэнсе, што яна "ў адрозненне ад савецкай бібліятэчнай справы пазбаўлена кіраўніцтва чытаннем як метадалагічнай асновы" з горыччу прыгадваўся і тады, калі аказалася, што на тэрыторыі выставачных экспазіцый штодзень і бесперапынна выступалі пісьменнікі і ілюстратары кніг... Што тычыцца "Нацыянальнага бібліятэчнага тыдня ЗША", дык даты яго правядзення распісаныя да 2002 года ўключна. Калі гэта і прагматызм, дык ён працуе на фармаванне духоўнасці, на развіццё любові да чытання, на выхаванне яго культуры. Бо на выставах рэкламаваліся казкі (і колькі яшчэ цудоўных цацак — герояў казак, якія рыхтуюцца вось-вось з'явіцца на рынку, — я пабачыў там!), энцыклапедыі, прафесійныя выданні, а ў горшым выпадку — сентыментальныя раманы пра каханне.

І немагчыма было нават уявіць сабе рэкламу крутога баевіка або парнаграфіі. Так што рынкавыя дачыненні самі па сабе, аказваецца, ніяк не перашкода развіццю духоўнасці!

Па суседству з выставачным павільёнам працаваў так званы бібліятэчны кірмаш. Я не планаваў наведваць яго загадзя — і ледзь не прапусціў самае галоўнае, пра што варта ведаць нашым бібліятэкарам, ды і ўвогуле чытачам, і чаго нават у мроях няма дома. Бібліятэчны кірмаш — гэта выставы рэкламы і грамадскіх дачыненняў асобных бібліятэк: маляўнічыя плакаты і буклеты — своеасаблівы расповед пра школьныя і публічныя бібліятэкі; паштоўкі, лістоўкі ды бюлетэні сяброў (добраахвотных актыўных груп падтрымкі) асобных бібліятэк; бібліятэчныя справаздачы, прыгожа выдадзеныя ў выглядзе альбомаў; рэкламныя матэрыялы арганізацый па праектаванні бібліятэчных будынкаў; маладзёжныя газеты (аўтары да 18 гадоў); мноства матэрыялаў па распрацоўцы бібліятэчных інструкцый; рэклама мясцовых бібліятэчных часопісаў; вытрымкі з каталогаў канкрэтных бібліятэк; календары бліжэйшых падзеяў для чытачоў; плакаты і паштоўкі аб кніжных распродажах з бібліятэчных фондаў (на ўзроўні твораў мастацтва. Дзякуй Богу, нарэшце і ў нас такі распродаж дазволены); вельмі прывабныя матэрыялы (паштоўкі, папяровыя цацкі і г.д.), якія прапагандуюць дзіцячае чытанне; рэкламы бібліятэк у выглядзе кніжных закладак і шмат іншага. Усё гэта — рэклама КАНКРЭТНЫХ БІБЛІЯТЭК, а не агульнай ідэі, і не выдавецтваў або кнігагандлёвых арганізацый.

Тут жа быў арганізаваны збор ахвяраванняў на бібліятэкі. Хочаш — выпісвай чэк, хочаш — запоўні анкету аб тым, што маеш такі намер, і з табой звяжуцца пазней.

... Пра прапаганду дзіцячага чытання варта сказаць крыху болей. Перш за ўсё яна — дзейсная, святочная і ўлічвае псіхалогію маленькага чалавека. Напрыклад, на аб'ёмнай паштоўцы даецца вось такое "хатняе заданне" школьніку на летнія вакацыі: "Ты павінен падчас вакацый пасябраваць з марсіянамі, адшукаць схаваны скарб, злавіць падаючую зорку, і, папершае, зрабіцца неверагоднай машынай для чытання!" На іншай — плоскай — паштоўцы толькі малюнак: меланхалічны на выгляд робат сядзіць на Месяцы і... вядома ж, чытае кнігу.

Гаворачы пра прапаганду чытання і бібліятэк у ЗША, нельга не згадаць і наведванне публічнай бібліятэкі Нью-Ёрка, якая ў тыя дні святкавала сваё 100-годдзе. Акрамя выставы рукапісаў і аўтографаў англійскіх і амерыканскіх паэтаў (а яна займала некалькі залаў), азарт да чытання сур'ёзнай літаратуры стымулюецца і праз апытанне думкі чытачоў і проста наведнікаў аб "кнізе стагоддзя". Усе меркаванні адлюстраваныя на спецыяльных стэндах, і самы "несур'ёзны" аўтар, якога я там заўважыў, гэта Стывен Кінг.

Стратэгічная задача Амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі — гэта дасягненне роўнасці ў выкарыстанні інфармацыйнай супермагістралі (так называюць яны электронныя камп'ютэрныя інфармацыйныя сеткі) да 2000 года. Менавіта роўнасць, бо проста выкарыстанне іх у бібліятэчнай працы даўно стала руцінным.

У гэтым кантэксце бясцэнным вопытам асабіста для мяне было наведванне мерапрыемства ў бібліятэчнай школе імя Прата (старэйшай бібліятэчнай ВНУ ЗША) пад назвай "Круіз на Internet — больш чым электронная пошта", што праводзіўся спецыялістамі гэтага інстытута разам з Круглым сталом па міжнародных зносінах асацыяцыі. Акрамя практычных навыкаў кожны ўдзельнік трэнінгу атрымаў падручнік, канспект лекцый па Internet і дэманстрацыйную дыскету.

Пры згаданым Круглым стале існуе падкамітэт па Еўразіі і Цэнтральнай Азіі, і мне пашчасціла ўдзельнічаць у пасяджэннях гэтага падкамітэта. Гэта была сустрэча з мілымі і зацікаўленымі людзьмі, генеруючымі добрыя, якасныя праекты, скіраваныя на перспектыўную дапамогу бібліятэкам былога СССР. Адбыўся зацікаўлены абмен меркаваннямі, і рабочыя кантакты з гэтым падкамітэтам абяцаюць быць прадуктыўнымі і карыснымі. Я распавёў пра нашу асацыяцыю, нашы праекты, уручыў дыскету з першым пробным нумарам нашага "Весніка" на англійскай мове для міжнароднага чытача, які хутка з'явіцца ў выглядзе электроннага бюлетэня. Дарэчы, падрыхтоўка бюлетэня — гэта частка праекта, які падтрымлівае фонд "Еўразія" за кошт сродкаў, прадастаўленых Агенцтвам па міжнародным развіцці Злучаных Штатаў Амерыкі. Пра маштаб міжнароднай дзейнасці Амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі можна меркаваць хаця б па тым, што сёлета ў жніўні ў Кітаі праводзіцца арганізаваная гэтай асацыяцыяй амерыканска-кітайская канферэнцыя на тэму ўсеагульнага доступу да інфармацыі.

Ці трэба рабіць прамыя высновы з убачанага і паўтараць словы віцэ-прэзідэнта нашай бібліятэчнай асацыяцыі Уладзіміра Голубева аб беларускай дзяржаве, якая ганебна павярнулася спінай да бібліятэк? Вядома, што сёння бібліятэкі Беларусі могуць разлічваць толькі на энтузіязм і на міжнароднае супрацоўніцтва. Не на дапамогу: яна далёка не заўсёды эфектыўная, а менавіта на супрацоўніцтва. Але калі гэтыя зацемкі зменяць у каго-небудзь настрой да лепшага, паспрыяюць нараджэнню новых, свежых ідэй, скіруюць — хаця б аднаго прадстаўніка дзелавых колаў — да думкі пра тое, што фундацыя бібліятэчнай справы можа быць прэстыжнай і эфектыўнай рэкламай, аўтар будзе лічыць сваю задачу выкананай.

Але гэтыя зацемкі будуць абсалютна няпоўныя і не зусім шчырыя без выказвання падзякі арганізацыям і асобам, якія зрабілі магчымай паездку дэлегацыі беларускіх бібліятэкараў у Нью-Ёрк. У яе пасля конкурснага адбору ўвайшлі Таццяна Акушэвіч з абласной публічнай бібліятэкі, Ірына Курбатава і Аляксандр Саладкоў з Нацыянальнай, Раіса Сухарукава з Дзяржаўнай навукова-тэхнічнай і аўтар гэтых радкоў. Дзякуй Інстытуту адкрытага грамадства ў Будапешце, які забяспечыў 2/3 аплаты камандзіроўкі, дзякуй Мелісе Хагеман і Рыме Купруце з гэтага інстытута, якія займаліся фармаваннем дэлегацыі і пытаннямі фінансавання практычна, дзякуй заснавальніку гэтага інстытута пану Дж.Сорасу і Беларускаму фонду Сораса, які даплаціў патрэбную суму да поўнага кошту паездкі. Дзякуй Лідзіі Пракулевіч, былому каардынатару бібліятэчнай праграмы гэтага Фонду (мы пачыналі працаваць з ёй), дзякуй — і вялікіх поспехаў — Віялеце Вуцанс, новаму каардынатару Бібліятэчнай праграмы.

І, вядома, дзякуй амерыканскім арганізатарам.

**Уладзімір ЛАЗАРАЎ,**
**член Рады Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі.**



За дваццаць шэсць гадоў працы Тамара Аляксандраўна Валуевіч (на здымку) бачыла розныя перамены ў стаўленні чытачоў да кніг. Накідваліся нядаўна на бульварныя раманы, а цяпер зноў вяртаюцца да Стэндаля і Гюго, Пушкіна і Гогаля, Купалы і Караткевіча. Ну, а Тамара Аляксандраўна, якая ўзначальвае бібліятэчную сістэму ў Ганцавічах, і яе калегі імкнуцца задаволіць гэтую духоўную прагу.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

# КНІГАРНЯ

# "...НЯСУ ПАЧУЦЦЯЎ МНОГА"



Гэтыя словы народнага песняра Беларусі Якуба Коласа маглі б стаць эпіграфам да яго непаўторнай літаратурнай творчасці і ўсёй шматграннай дзейнасці. Нёс багацце пачуццяў і светлых думак народу ён пры жыцці, нясе і зараз, у наш складаны, бязладны час.

У пісьменніка — дзве даты нараджэння: з'яўленне на свет і выхад на людскія вочы першым творам. 3 лістапада 1882 года Якуб Колас нарадзіўся. 1 верасня 1906 года ў першым нумары першай беларускай газеты "Наша доля" быў змешчаны яго верш "Наш родны край".

У наступным надрукавана яго апавяданне "Слабода". Пад псеўданімам "Дзядзька Карусь". "Нашай долі" не выпала шчаснага лёсу: шэсць разоў выйшла, на сёмы — не з'явілася! Пачала выходзіць "Наша ніва". І на гэтай "Нашай ніве" рос, набіраўся моцы наш вялікі Колас!

У 1910 годзе свет пабачыў першы зборнік паэта "Песні жальбы". Максім Багдановіч у вядомым артыкуле "Глыбы і слаі. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1910 года" асобна спыняецца на разглядзе кнігі і адзначае, што "цэльнай выглядае яна па светапогляду, моцна зросшыміся адзін з адным здаюцца яе вершы". Высокую ацэнку атрымліваюць творы Коласа, у якіх паэт выказвае любоў да Бацькаўшчыны. "Гэтая любоў, — пісаў Багдановіч, — як цудоўная жывая вада ў казках, ажыўляе іх і робіць роднымі, блізкімі ўсякаму, у кім ёсць яшчэ душа жывая, хто не забыўся аб долі свайго народа".

Матэрыялы пра аўтара зборніка "Песні жальбы" з'явіліся не толькі ў беларускім, але і ў рускім, украінскім, польскім і чэшскім друку. Тут варта прыгадаць славутае выказванне Максіма Горкага пра "цікавых хлопцаў" у Беларусі — Якуба Коласа і Янку Купалу, што "проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра..."

Рускі даследчык А.Пагодзін у студзеньскім нумары часопіса "Вестник Европы" за 1911 год пісаў:

"Тут пераважаюць малюнкі прыроды, часам такія прыгожыя і паэтычныя, што нехаця спыняешся перад імі. У Якубе Коласе адчуваецца сапраўдны паэт, які ўмее знаходзіць свае словы для даўно апісаных вобразаў. Гэтых малюнкаў, якія ўзяты з роднай земляробчай прыроды, так многа ў зборніку і так яны своеасабліва перададзены паэтам, што па іх можна было б проста скласці альбом сялянскай, шэрай, не польскай і не велікарускай, а зусім асаблівай "сярмяжнай Беларусі". Для пацвярджэння сваёй думкі аўтар знаёміць рускага чытача з урыўкамі вершаў "Нязбытныя надзеі", "Наш родны край", "Жытні колас", "Мужычае жыццё"...

Малады беларускі паэт набываў прызнанне ў народзе, хоць гэта давалася нялёгка. Праз шмат гадоў пясняр не раз будзе з горыччу ўспамінаць свае першыя літаратурныя крокі.

На ўрачыстым вечары, прысвечаным ягонаму 70-годдзю з дня нараджэння, Якуб Колас казаў:

"У далёкія дні майго юнацтва, калі мяне так моцна захапляла паэзія і паэтычная творчасць і я ўпотайку складаў песні моваю роднага народа аб яго долі, мяне часта браў горкі роздум: куды пайду я са сваім родным словам? Яно забаранялася, высмейвалася, яно выганялася з усіх устаноў таго часу. Ці дойдзе яно да народа, з цяжкім лёсам якога я звязаў свой лёс і якому аддаваў усё самае дарагое, што было ў маім сэрцы. Маё слова, хоць і вузкімі дарогамі, але даходзіла да народа..."

Даходзіла і хвалявала сэрцы людскія. Кніга "Песні жальбы" была выдатнай з'явай у тагачасным культурным жыцці беларусаў. Нагадаем, што выйшла ў свет яна, калі аўтар знаходзіўся ў мінскім астрозе за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 — 1907 гадоў.

Не толькі песні жальбы складае свайму люду Якуб Колас. Ёсць тут творы, з аптымістычнай нотай веры ў паляпшэнне жыцця і нават з заклікам паўстаць за перайначанне існуючых парадкаў.

*Ці ж мы,хлопцы, рук не маем?*
*Ці ж нам сілы бог не даў?*
*Ці ж над нашым родным краем*
*Промень волі не блішчаў?*
**(з верша "Беларусам")**

Шмат якія творы з "Песеньжальбаў" даўно сталі хрэстаматыйнымі. Любоў і замілаванасць да роднай прыроды, да свайго краю, выказаная каля 90 гадоў назад, нязгаслая і сёння. Яна суладная і нашым пачуццям. Шчымліва, балюча аддаюцца паэтавы словы ў сэрцах беларусаў цяпер, у такі нялёгкі і трывожны час — і для людзей, і для самой прыроды, асабліва пасля чарнобыльскай бяды.

1906 — 1956, між гэтымі датамі пралягае творчы шлях Якуба Коласа. Палавіну стагоддзя нястомна тварыў ён у непарыўнай еднасці з народам і для народа.

Ацэньваючы творчую спадчыну песняра, Пятро Глебка зазначыў: "Спакойная, каларытная паэзія "Новай зямлі", узвышаная лірыка "Сымона-музыкі", задушэўная апавядальнасць "У палескай глушы", глыбокая жыццёвая філасофія "Казак жыцця", эпічная шырыня "Дрыгвы", мяккі лірызм пейзажных вершаў, вясёлы і цёплы гумар жанравых апавяданняў — вось тыя асноўныя рысы, якія складаюць характар коласаўскай творчасці. Глыбокая ідэйнасць, высокае грамадскае пачуццё асвятляюць гэтыя рысы сапраўдным пафасам, яднаюць іх у адно цэлае, і перад намі выступае маналітная постаць магутнага пісьменніка".

13 жніўня 1956 года вялікага песняра не стала. Сэрца спынілася за рабочым сталом. Да Коласа і пасля — такога шматлюднага пахавання Беларусь не бачыла. Гэта была ўсенародная жалоба.




Мінаюць гады, а Якуб Колас параненейшаму застаецца ў поступе нашага жыцця — вучыць, раіць і натхняе.

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

*На здымках: Якуб Колас, 1908 г.; вокладка кнігі "Песні жальбы".*

## МАЛЕНЬКАЕ СВЯТА ПАЭЗІІ

3 верасня бібліятэка імя Цёткі і СШ № 15 г.Мінска наладзілі выставу кнігі маладой мінскай паэтэсы Таццяны Лапцёнак "Я з Табой". Гэтая падзея невыпадкова амаль супала з Днём славянскай пісьменнасці: звышмэтай творчасці Т.Лапцёнак з'яўляецца паэтычнае асэнсаванне славянскай культуры слова, рэстаўрацыя светапогляду нашых продкаў, старажытных славян. Апрача таго, у яе вершах адчуваецца ўплыў прынцыпаў "Жывой этыкі" М.Рэрыха, якія Таццяна скарыстоўвае і ў сваёй асноўнай працы педагога.

Прэзентацыю кнігі, што адбывалася ва ўтульнай гасцёўні школы, можна смела назваць маленькім святам беларускай паэзіі. Прысутныя пераканаліся ў слушнасці слоў Івана Ждановіча з прадмовы да публікацыі тэкстаў паэтэсы ў часопісе "Роднае слова" (№ 3, 1996): "...Таццяна чытае так, быццам спавядаецца перад светам. І перад Богам, і перад сабою. Урэшце яе вершы і ёсць — то споведзь, то малітва, то пяшчотнае гушканне на далонях радкоў-яскарак Божага святла".

З кнігай Таццяны Лапцёнак "Я з Табой" можна азнаёміцца ў бібліятэцы імя Цёткі і ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я.Купалы.

**А.БІБЛІК**

## ЯЕ ВУЧЫЎ ЯКУБ КОЛАС



На традыцыйнай выставе народнай творчасці ў Ганцавічах прадстаўлена 29 ручнікоў, выробленых у першай палове нашага стагоддзя. А самы стары з іх выткала былая вучаніца Якуба Коласа Тэкля Зянько з вёскі Люсіна. Прынесла ручнік на выставу яе праправўнучка Марыя Ліцвіновіч. Далейшы лёс экспазіцыі ў руках супрацоўніц раённай бібліятэкі (на здымку) Соф'і Піваварчык, Алены Ленес і Святланы Курылік.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

# "НОЧ ДЗЯВОЧАЙ КАСЫ"

Залаты, непаўторны час маладосці!... Жыццё толькі пачынаецца, сцежкі не ўсё яшчэ пройдзены, паэзія толькі адкрываецца. Адкуль яе вытокі, светлыя і чыстыя, як тая крыніца?...

Даўно заўважана, што сапраўдныя паэты цікавыя не тым, чым яны падобныя адзін да аднаго, а ў першую чаргу тым, чым яны адрозніваюцца, што новага нясуць чытачу, якія думкі і пачуцці, уласцівыя толькі ім адным, перапаўняюць іх сэрцы... Той, хто любіць і цэніць сучасную беларускую паэзію, не мог не звярнуць увагі на імя, якое ўжо заняло пачэснае месца на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. Гэта імя Алеся Пісарыка —аўтара арыгінальных зборнікаў лірыкі "Ліставір", "Белы май", "Дажджы яравыя", "Пакуль гарыць мая зара". Трэба сказаць, што гэтыя кнігі А.Пісарыка не былі абмінуты ўвагай ні чытачоў, ні крытыкі.

Дастаткова сказаць, што вядомы беларускі пісьменнік Віктар Гардзей у сваім водгуку аб яго творчасці піша так: "Вершы і паэмы Алеся Пісарыка, — глыбока лірычныя, узніклі з перажытага, вынашаныя ў душы і сэрцы, і, чытаючы іх, да канца, без сумнення верыш кожнаму слову..."

І ці не самае галоўнае сённяшняй творчасці Алеся Пісарыка, — яго новая кніга "Ноч дзявочай касы", якая толькі што выйшла ў Мінску. Тут ледзь не на кожнай старонцы чуецца трывога за спакутаваную мілую Беларусь, неспакой за будучыню нашых дзяцей. Баліць паэту, моцна баліць. Была вайна, быў Чарнобыль. Сёння ж нашу зямлю рабуюць хто як хоча, у беларусаў адбіраюць самае дарагое — родную мову...

*Можа, ёсць недзе мова гучней*
*і зычней,*
*І яна даражэй для кагосьці?..*
*Паважайце маю, і я стану радней*
*Для ўсіх вас, пабрацімы і госці,*

— пранікнёна і шчыра піша паэт у адным з вершаў.

Кніга "Ноч дзявочай касы" засведчыла пра якасна новы мастацкі ўзровень паэзіі Алеся Пісарыка. Вершы, сабраныя ў ёй, прываблiваюць шчырасцю і амаль інтымнай даверлівасцю да чытача, яркай, непрыдуманай вобразнасцю і дакладнасцю паэтычных тропаў — метафар, алітэрацый, эпітэтаў. Зборнік мае тры раздзелы: першы — гэта ўвогуле сыноўняя споведзь перад роднай Беларуссю, другі прысвечаны землякам і ўсім добрым, прыветным людзям, трэці, можа ці не самы хвалюючы раздзел, — то моцны, сканцэнтраваны вялікім пачуццём паэтычны сказ пра пяшчотнае, беззапаветнае каханне:

*Мне аднолькава балюча,*
*Калі побач ты і не...*
*Ты шыпшынаю калючай*
*У маім штодня вакне.*

Гаворачы пра гэты зборнік, думаецца, не лішне будзе зазначыць, што ў Алеся Пісарыка свой, уласцівы толькі яму, вобразны лад вершаў, свой слоўнік, свой набор мастацкіх дэталяў, безумоўна, навеяныя тымі акалічнасцямі, што творца сёння жыве ў вёсцы, сярод непаўторнай беларускай прыроды. Таму не дзіўна, што ў яго вершы заляцяць то ластаўка, то салавей, у расхваляваных страфах час ад часу расцвітуць то ружа, то калінка, а ўся кніга, здаецца, аж цераз край перапоўнена гукамі і мелодыямі родных мясцін:

*Родны краю! — князя Пухава*
*пагляд*
*Адчуваю ў дні халодныя каляд:*
*Маразоў плывуць сівыя табуны,*
*Наганяе неба змрочлівыя сны.*
*Родны краю! — голас Пушкіна*
*жыве*
*У акрыленай паўстаннем*
*Дайнаве,*
*Дзе ў гаях звіняць Дуброўскага*
*клінкі:*
*Голас Мар'і ў сэрцах тояць*
*жаўрукі.*
*Родны краю! — прыхаваная туга*
*Разліваецца ў азёрных берагах:*
*Крыўду памяці не выстудзіць*
*царква.*
*Паліць сэрцы заваёўнікаў*
*жарства...*

Вершы А. Пісарыка як бы пацвярджаюць вялікія думкі Пушкіна аб тым, што літаратура — ідэал, але не маральнае павучанне. Яны не спрабуюць вучыць чамусьці чытача, настаўляць...

Адметнасць зборніка — высокае гарэнне неўтаймоўнай душы паэта — перш за ўсё, мабыць, абумоўлена тым, што сам ён з таго пакалення беларусаў, дзе помняць і добра ведаюць цану кожнаму мастацкаму слову Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна, Міхася Стральцова. Пад уражаннем і непасрэдным уплывам менавіта гэтых класікаў беларускай літаратуры Алесь Пісарык, паводле яго ж прызнанняў, рабіў першыя крокі на паэтычнай ніве, засяваў яе адборным насеннем і, дзякуй Богу, дачакаўся здаровай і дружнай руні, стаўшы аўтарам ладнага ўжо стосіка арыгінальных вершаваных кніг.

Вось і гэтым самабытным зборнікам аўтар падкрэслівае, што сярод высокіх чалавечых якасцей самая яркая — гэта здольнасць да спагады і спачування. Чалавек, надзелены гэтым дарам, як правіла, не здольны на зло. Не важна, дзе іменна здарылася бяда — за суседскай сцяной ці за край свету: унутраны духоўны механізм імгненна пераносіць яго ў цэнтр падзей. Паставіць побач з тымі,каму неабходна дапамога. І нікога няма бліжэй у цяжкую хвіліну... Аб гэтым міжволі падумалася, калі я чытаў "Жнівеньскі смутак", прысвечаны памяці народнага паэта Максіма Танка. Вось некалькі радкоў з гэтага верша:

*Сёння ўсё пазмрачнела ад болю:*
*І вада, і яршысты чарот...*
*І вяскоўцы з гарачага поля*
*Не завозяць снапы ў азярод.*
*Журны погляд у нівы і гаю,*
*Не распальваюць птушкі зару.*
*Сёння ў вернасці край прысягае*
*Дарагому свайму песняру.*

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# БЕЛАРУСКІЯ СКАРБЫ

***Добрую справу робяць у Міжнародным фондзе "Беларускі кнігазбор". Яны — сапраўдныя збіральнікі беларускіх скарбаў. І гэтае багацце будуць атрымліваць усе жадаючыя. Калі ў кніжнай краме я ўбачыў кнігу "ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы", у мяне склалася ўражанне, што нам падарылі першы прамень з гэтага сонечнага куфра.***

* * *

*Я наведаў Дом літаратара і сустрэўся з прэзідэнтам Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор" Кастусём Цвіркам.*

**— Кастусь Аляксеевіч, распавядзіце калі ласка, пра Вашыя выданні.**

— На сённяшні момант асноўная кніга — Ян Чачот."Выбраныя творы".

**— Але у Вас ёсць іншыя выданні, напрыклад, зборнік паэзіі Пятро Чабора і Міхася Мельніка "Скрыжаванне", дзіцячая кніга Вольгі Савасцюк "Арэлі на вясёлцы", кніга Зміцера Яцкевіча "Радавод Яна Чачота".**

— Так, акрамя асноўнай серыі "Беларускі кнігазбор" мы будзем выдаваць і іншую літаратуру. Але яна будзе выходзіць у асноўным за кошт аўтараў. Сваіх сродкаў на кнігадрук у нас пакуль няма.

**— А сродкі на "Беларускі кнігазбор"? Калі я не памыляюся, Вы плануеце выданне серыі не менш за дзвесце тамоў?**

— Ужо складзены план-каталог, які ўключае ў свой спіс усё лепшае з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад самага пачатку пісьменства да нашых дзён. "Беларускі кнігазбор" — гэта выданне, якое ў яркіх мастацкіх вобразах і ў дакументальных матэрыялах раскрые перад намі ўсю тысячагадовую гісторыю Беларусі. І таму некаторыя кнігі з гэтай серыі, у прыватнасці кнігі "Ян Чачот. Выбраныя творы" і "Максім Багдановіч. Выбраныя творы", трапілі ў спіс сацыяльна-значнай літаратуры Дзяржкамітэта па друку на 1996 год.

**— Значыць, нейкая залежнасць ёсць?**

— Так — залежнасць ад грашовых сродкаў. Але, нават, кнігі, якія трапілі пад дзяржаўную ўвагу, фінансуюцца толькі часткова. Агульны наклад "Яна Чачота" — 4000 экземпляраў. З іх толькі толькі 2500 прафінансаваны на сто працэнтаў. 1500 фінансавалася на 50 працэнтаў. Астатнія 50 працэнтаў аплацілі спонсары АТ "Сотвар", кампанія "Тусон" і іншыя. Мы ім вельмі ўдзячныя.

Мы звязаны з навукоўцамі, з творчымі работнікамі, якія ўжо працуюць над многімі тамамі серыі. Працэс збірання нашай спадчыны ідзе.

**— У Вас ёсць свая выдавецкая тэхніка?**

— Сваёй тэхнікі няма. Мы рыхтуем кнігу да друку, праводзім маркетынгавыя паслугі і супрацоўнічаем з тымі арганізацыямі дзе самыя танныя паслугі.

**— У мяне ўзнікла пытанне... Вось, напрыклад, я — літаратар — прыйшоў да Вас і прашу выдаць маю маленькую кніжачку. Колькі гэта будзе мне каштаваць?**

— Мы разам з нашым бухгалтарам Марынай Міхайлаўнай Адамовіч робім калькуляцыю, падлічваем матэрыялы, ганарары —усё. І тады кажам — вось вам каштарыс, калі ласка, пералічыце грошы на наш рахунак, і ў вас кніга будзе праз тыдзень.

**— Дык што, любы графаман прыйдзе да Вас, пакладзе на стол грошы і Вы зробіце яму кнігу?**

— Ні ў якім разе. У нас створана рэдакцыйная група, у якую ўваходзяць — Генадзь Вінярскі, Алесь Пашкевіч, Васіль Зуёнак і я.

**— Кастусь Аляксеевіч, акрамя таго, што Вы кіраўнік фонду, Вы яшчэ і літаратар. Напрыклад, укладанне і пераклад Яна Чачота зроблены Вамі. А як жа Вашыя ўласныя творы?**

— Уласныя творы ляжаць у доўгай скрыні — няма часу імі займацца: хаджу ў бібліятэку, шукаю творы для "Беларускага кнігазбору", перачытваю, пераглядаю, выбіраю і даю іх на пераклады. Гэта толькі маленечкая частка дзейнасці нашага фонду. А супрацоўнікаў вельмі мала — я, Генадзь Вінярскі і Марына Міхайлаўна.



Малюнак Віктара СТАШЧАНЮКА

**— Вы знаходзіцеся ў Доме літаратара. Вы тут наймаеце памяшканне?**

— Мы нічога не наймаем. Тут працуе Генадзь, і мы на птушыных правах сюды заходзім... Думаем — можа, не прагоняць?

**— І ўсё дзеля "Беларускага кнігазбору"?**

— Серыя "Беларускі кнігазбор" надзвычай важнае выданне нашай тысячагадовай спадчыны. Як вам вядома, літаратура на Беларусі стваралася на розных мовах — стараславянскай, старабеларускай. Шмат выходзіла кніг на лацінскай мове, якіх мы сёння не ведаем, апрач твораў Міколы Гусоўскага. Больш за 200 гадоў беларуская зямля была ў складзе Рэчы Паспалітай, якая пасля пачала называцца Польшчай. У тыя часы беларуская літаратура існавала на польскай мове. Яна па-сутнасці "тэра інкогніта" — пакуль мы не ведаем тых твораў. Нашы літаратуразнаўцы іх адрынулі ад сябе і зрабілі багацейшую гісторыю, культуру нашай краіны духоўнай пустэчай. Я лічу гэта вялікай недарэчнасцю. Калі адносіць тыя творы на польскай мове да польскай літаратуры, значыць, сёння мы жывем у Польшчы. Але ж усё не так! Гэта літаратура Беларусі. У наш кнігазбор мы ўключылі творы, якія пісаліся на самых розных мовах. Вядома, яны будуць надрукаваны ў перакладзе на беларускую.

Той, хто мяркуе набыць усе нашы выданні, атрымае лепшую літаратуру Беларусі. Кнігазбор падзелены на дзве серыі: першая — мастацкая літаратура, другая — гісторыка-літаратурныя помнікі. Гэта праца забытых этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, мовазнаўцаў, філосафаў. Вядома, "Беларускі кнігазбор" — агромністая праца. Прыкладна такая серыя ёсць у Польшчы, яна называецца "Бібліятэка нарадова". Калі я не памыляюся, яна выдаецца ўжо пяцьдзесят гадоў і будзе яшчэ працягвацца.

* * *

Сумна, калі думаеш, што Кастусь Аляксеевіч і два яго супрацоўнікі не маюць не тое што тэхнікі, а нават свайго памяшкання. Туляцца па розных кутках Дома літаратара, а зрэдку зладжваюць пасяджэнні і на прыродзе — на лаўцы ў парку імя Горкага.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ЦЕРАЗ ЛЁС ПІСЬМЕННІКА ЗРАЗУМЕЦЬ ЛЁС НАЦЫІ

У музеі Янкі Купалы адкрылася выстава "У сугуччы культур: Купала і Райніс". Пра моцную сувязь Райніса з беларускай культурай сведчыць тое, што ён быў, фактычна, выхаваны на беларускай народнай песні. Выстава прадстаўляе матэрыялы, якія сведчаць не толькі пра ўзаемаадносіны паміж паэтамі, але і пра культурніцкія стасункі паміж нашымі народамі на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Адкрыццё выставы звязана з некалькімі датамі — 75 гадоў таму Райніс наведаў Беларусь і быў удзельнікам канферэнцыі, прымеркаванай да рэформы правапісу, 55 гадоў прайшло, як Купала наведаў Першы з'езд пісьменнікаў Латвіі, 75 гадоў таму беларусы ў Латвіі стварылі сваё таварыства "Бацькаўшчына". Адметнасцю культурных узаемаадносінаў таго часу стала заснаванне ў 1921 годзе ў Латвіі сеткі беларускіх школ, гімназій, тэатраў, выдавецтваў. Выстава паказвае, што гэтыя стасункі працягваюцца і да сённяшняга дня. Сярод прадстаўленых экспанатаў вылучаецца зварот таварыства "Світанак" да Сойму Латвіі аб абароне інтарэсаў нацыянальных меншасцяў, каб беларусы лічыліся аўтаномным, карэнным насельніцтвам. Як падкрэсліў вядомы навукоўца Адам Мальдзіс, паміж Беларуссю і Латвіяй адносіны складваюцца найбольш добразычлівыя не толькі ў галіне культуры, але і грамадскія ў параўнанні з іншымі нашымі суседзямі. Так, на думку даследчыка, цяжка ўспомніць які-небудзь сур'ёзны канфлікт за час нашага сумеснага самастойнага існавання, і нашыя ўзаемаадносіны могуць служыць своеасаблівым эталонам... На Беларусі, у Полацкай калегіі, былі ўпершыню надрукаваны кнігі на старажытнай латышскай мове, сёння ў кожным нумары зборніка міжнароднай асацыяцыі беларусістаў "Кантакты і дыялогі", у кожным нумары зборніка "Беларусь" прадстаўлены латышскі матэрыял, летась у Віцебску быў зарэгістраваны абласны Саюз латышоў.

Выстава зацікавіць не толькі спецыялістаў, але і ўсіх, хто захапляецца творчасцю Купалы і Райніса. У бліжэйшы час яе змогуць пабачыць і жыхары Латвіі.

З нагоды адкрыцця выставы "У сугуччы культур: Купала і Райніс" на пытанні нашага карэспандэнта адказвае вучоны сакратар музея Янкі Купалы, старшыня рады таварыства "Беларусь — Латвія" Сяргей Панізьнік.

**— Чым адметная Ваша выстава?**

— Больш за палову прадстаўленых тут матэрыялаў шырокае кола грамадскасці пабачыць упершыню. Значная іх частка складаецца з прыватных архіваў. Наогул, дакументы, якія тычацца асобаў, пераважна эксклюзіўныя, іх ведаюць людзі, якія непасрэдна вывучалі гэтыя матэрыялы, але калі мы гаворым пра шырокі навуковы ўжытак, то большасць з іх уводзіцца ўпершыню. Можна гаварыць пра паказаны тут партрэт Райніса і Купалы — ён быццам вядомы і хрэстаматыйны. Аднак ён быў у свой час "рэпрэсаваны". Шмат фотаздымкаў напаткаў такі ж лёс. Напрыклад, калі Дубоўка быў пасаджаны ў 1926 годзе за краты — на фотаздымках каля Купалы яго не было відаць. Выявы рэпрэсаваных затушоўваліся.

**— Ці не маглі б Вы пазначыць асноўныя рысы ў культурных стасунках Латвіі і Беларусі тых часоў, якія былі б вельмі карыснымі і сёння?**

— Іх можа абагульнена назваць — райнісаўскія традыцыі, іх варта ўзнавіць. Трэба ўсведамляць падзел — калі мы маем на ўвазе дыяспару, адносіны паміж нацыямі, дзяржавамі. Павінен быць адзіны закон сужыцця, чалавекалюбства. Паважаць саміх сябе і тытульную нацыю. Самі латышы гавораць: мы хочам бачыць перад сабой грамаду людзей, якая ідэнтыфікавалася, якая нацыянальна свядомая і імкнецца інтэграваецца ў культуру нашай дзяржавы. Больш ім нічога не трэба... Ёсць і такі выпадак. Да маёй сястры прыходзіць беларуска і крычыць, што "Эти латыши хотят меня на колени поставить". Справа ў тым, што каб уладкавацца на работу, трэба здаваць экзамены, мінімум трэцяй ступені. Гэта проста ведаць слоўны ветлівасці, ведаць канстытуцыю, гісторыю — гэта ж мінімум, які ўваходзіць у круг самапавагі.

**— Можна казаць пра тое, што вакол нацыянальнай палітыкі ў Прыбалтыйскіх краінах адчуваецца шмат спекуляцый?**

— Канешне. Часта даводзіцца чуць ад знакамітых людзей з Расіі, якія сюды прыязджаюць, што ў Расіі спекулююць на адносінах да так званых неграмадзян. Гэтым пераважна займаюцца расійскія неафашысты, гэта пазіцыя "пятай калоны" ці заядлых рэтраградаў. Мая пляменніца ў каледжы спецыяльна пайшла на латышскае аддзяленне і вучылася лепш, чым латышы.

**— 6 — 7 кастрычніка Міжнародны фонд Янкі Купалы і Літаратурны музей Янкі Купалы праводзяць канферэнцыю "Янка Купала і "Наша ніва", прысвечаную 90-годдзю з дня заснавання гэтага выдання. У чым актуальнасць канферэнцыі і якія мяркуемыя вынікі?**

— Мы толькі нядаўна пачалі адкрываць сапраўднага Купалу. Яшчэ чакаем поўнага сямітомнага збору яго твораў. У Латвіі, у гаворцы з пісьменнікамі часта даводзіцца чуць, што Райніс — філосаф, у той час як Купала — прымітыў. З чаго яны робяць такую высноўву? Яны ведаюць Купалу па перакладах "Над ракой Арэсай", "Хлопчык і лётчык"... Але ж яны не чыталі публіцыстыкі з кнігі "Жыве Беларусь", не чыталі многіх вершаў. Але роля Купалы для Беларусі, можа, нават больш значная чым Райніса для Латвіі. Яны, можа, пачалі сваё адраджэнне пазней, але пайшлі ўсёй нацыяй, у той час як мы ідзем памаленьку, невялікімі крокамі. Сапраўдны Купала зусім іншы, і таму ў навуковы ўжытак, ва ўжытак самасвядомасці мы ўводзім новыя накірункі яго творчасці. Тым больш, "Наша ніва" фактычна рабіла нацыю.

Тут мы маем апасродкаванае ўздзеянне Купалы на нацыю цераз газету. Зноўку, мы можам цяпер адкрыта гаварыць пра гэта — "Наша ніва" была рэпрэсаваная. У сённяшнім адраджэнні прысутнічаюць элементы і той пары.

**— Якія сумесныя беларуска-латышскія культурніцкія праекты можна яшчэ вылучыць?**

— Важным чынам узаемадзеяння нашых культур з'яўляецца верасneўскі фестываль нацыянальных супольнасцей. Тут пакаваецца на што здольная кожная з нацыянальных супольнасцей Латвіі, куды ўплятаецца і дзейнасць беларускай дыяспары. У прыватнасці, гэта творчасць даўгаўпілскага ансамбля "Купалінка", рыжскага "Надзея". Будзем спадзявацца, што традыцыі культурнага ўзаемадзеяння паміж нашымі народамі будуць развівацца і надалей.

**Гутарыў Алесь ТУРОВІЧ**



## У ГАСЦЯХ У ТЭРПСІХОРЫ

**У мінскім Палацы прафсаюзаў прайшоў рэспубліканскі семінар "Сусветная танцавальная праграма". Наш спецыяльны карэспандэнт Зміцер Волкаў гутарыць з яго ўдзельнікамі.**

# ЖЫВАЯ КАЗКА

*Васіль ЛЯШЭНКА, член Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танца і Беларускага прафесійнага танцавальнага Саюза.*

**— Я ведаю, што Вы адзін з галоўных ініцыятараў сённяшняга семінара, і таму мяне цікавіць адкуль з'явілася ідэя яго правядзення?**

— Мы разаслалі па ўсіх раённых аддзелах культуры запрашэнні на семінар. І вельмі задаволены тым, што людзі нас не праігнаравалі і прыехалі. Хацелася дапамагчы ўсім, хто займаецца бальным, спартыўным, эстрадным танцам, рок-н-ролам...

Людзі часам не разумеюць, што такое сапраўдны бальны танец, не ведаюць, наколькі гэта прыгожа.

Мы зацікаўлены, каб чалавек сярод футбола, аэробікі, ролікаў і бальных танцаў выбраў нас. Кожны павінен умець размаўляць, чытаць, пісаць і танцаваць — валодаць сваім целам. Гэта з майго пункту гледжання зусім натуральна. Менавіта сёння, калі вакол маса праблем, усе скардзяцца на цяжкае жыццё, трэба звяртацца да танца. Гэта самы гарманічны спосаб атрымання фізічнай нагрузкі і вельмі добры сродак барацьбы з усялякімі стрэсамі. Гэта неад'емны элемент культуры любога чалавека. У рэшце рэшт, і своеасаблівы від адносін паміж мужчынам і жанчынай.

Мой першы настаўнік Кац казаў: "Хочаш атрымаць свой танец — змяні сябе ўнутры і тады гэта выявіцца і звонку."

**— Вы стварылі Беларускі прафесійны танцавальны саюз, а як Вы выйшлі на Брытанскую асацыяцыю настаўнікаў танца?**

— У свеце гэта арганізавана вельмі складана. За мяжой да працэсу навучання танцам ставяцца сур'ёзна. Настаўнік павінен мець адпаведны дыплом. Гэта свайго роду ахова спажыўца. Каб не было такіх выпадкаў, што "нехта" сказаў: "Прыходзьце — я навучу". Можа гэты "нехта" сам нічога не ведае — толькі месяц наведваў школу танца. Атрымліваецца сапсаваны тэлефон. Я часта сутыкаюся з сітуацыяй, калі задаволеныя бацькі мне кажуць: "О, у мяне дзіця займаецца бальнымі танцамі!" Я думаю: "Божа мой, што яны зрабілі з дзіцем! Гэта што заўгодна, толькі не бальныя танцы!" У нас, на жаль, проста не распрацавана як след сістэма працэсу навучання.

Для таго каб стаць членам Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танца, трэба выканаць шэраг фармальных патрабаванняў: стварыць нацыянальную арганізацыю, прывесці канкрэтныя доказы свайго існавання... Пункт першы прафесійных правілаў Статута міжнародных арганізацый — гэта чалавек, які здаў прафесійны экзамен. Каб яго здаць, трэба шмат вучыцца. Да таго ж, каб атрымаць англійскі дыплом, патрабуецца заплаціць 4 тысячы долараў, у нас такіх грошай не было, але наш прафесіяналізм, наш энтузіязм вельмі спадабаліся, і таму нам пайшлі насустрач — за адзін дыплом мы аддалі 100 долараў.



**— Я чуў, што Вы з Аленай за апошнія чатыры гады ўдзельнічалі ў дваццаці сямі чэмпіянатах свету. А былі сярод гэтага танцавальнага жыцця кур'ёзы?**

— Быў адзін драматычны момант — нас абабралі, як кажуць, да ніткі. І вось адзін круты мільянер, паляк па нацыянальнасці, грамадзянін Вялікабрытаніі, з бізнесам па ўсім свеце падсадзіў нас у свой нейкі BMW-850 і павёз на чэмпіянат у Данію. Там здарылася зноў непрыемная сітуацыя — BMW па дарозе трапіў у аварыю. Нам пашанцавала — дзякуючы надзейнасці машыны мы засталіся жывыя. І вось прыязджаем на чэмпіянат свету са спазненнем хвілін на дваццаць і высвятляецца, што спонсары чэмпіянату — фірма-вытворца BMW. Пасля гэтага па еўрапейскім тэлебачанні нас паказвалі цэлы год — рэкламавалі сваю тэхніку, а мы і не ведалі. Потым прыязджаем, а нам паўсюль кажуць: "А-а-а! Мы вас бачылі — вы тыя спартсмены, якія трапілі ў аварыю." Усе думалі, што мы вельмі крутыя — прыехалі на гэткай дарагой машыне! Тая мадэль BMW каштавала вялікія грошы, ледзь не 100 000 долараў.

**— Дык што такое бальныя танцы — мастацтва ці спорт?**

— Я лічу гэта мастацтвам. Уявіць, напрыклад, Пеле, калі ён грае на полі з мячом — ён займаецца спортам ці мастацтвам? У прынцыпе адказаць адназначна вельмі цяжка — гэта спалучэнне і першага і другога.

* * *

*Андрэй і Наталля КАНАНЕНКІ, члены Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танца.*

**— Андрэй, Вы са сваёй напарніцай на сённяшнім семінары дэманстравалі лацінаамерыканскую праграму. Ёсць нейкая прыхільнасць да гэтай праграмы ці так атрымалася?**

— Мы маглі паказаць і еўрапейскую, але адпрацавалі тое, што нас папрасілі. Разыгралі ўсе гэтыя варыяцыі для нашых удзельнікаў семінара.

**— Вы займаецеся бальнымі танцамі прафесійна. Мабыць, тут хаваецца свая нейкая казачная прастора?**

— Так, вакол гэтага мастацтва існуе нейкая патаемная аўра. Наша жыццё праходзіць сярод прыгажосці. Праз прафесійныя заняткі танцамі мы атрымалі магчымасць ездзіць у розныя краіны свету — мы былі ў Аўстрыі, Галандыі, Нямеччыне.

Часам здаецца, што ў душы сядзіць нейкі маленькі чалавек, які і трымае нас каля танцаў. Хочаш не хочаш, а займаешся. Толькі пачуеш музычныя рытмы, адразу цягне танцаваць. У нас вялікая любоў да танца. Наогул цяжка растлумачыць гэты стан — займацца мастацтвам.

Для таго каб дасягнуць высокіх вынікаў, трэба шмат укласці, не толькі энтузіязму, таленту — шмат грошай. Каб добра апранацца, выязджаць.

* * *

*Надзея БІРУН, член Брытанскай асацыяцыі настаўнікаў танца.*

**— Вялікае ўражанне я атрымаў і ад танга, і ад факстрота, і ад венскага вальса, якія Вы паказвалі. Усе людзі ўдыхнулі моцны імпульс добрага настрою — я гэта адчуў.**

— Мы стараліся — гэта першы семінар. Я проста ведаю па сваім вопыце, што ёсць шмат настаўнікаў, якія працуюць у невялікіх палацах культуры, школах, ім вельмі цяжка. На жаль, імі мала хто займаецца. Мы ў свой час прыязджалі ў Брэст — гэта была сапраўдная цаліна. Мы там рабілі цыкл падобных семінараў. Было бачна, як з кожным семінарам падымаецца прафесійны ўзровень. Я вельмі задаволеная, што сёння адбылося такое свята — гэта велізарная дапамога культуры нашай краіны.

*На здымку: Васіль і Алена Ляшэнкі падчас танца.*

# ВАЯЖ ПА ЕЎРОПЕ

"Літарынка" — вядомы танцавальны калектыў Белдзяржуніверсітэта. Нядаўна яму споўнілася 15 гадоў. Кіраўнікі ансамбля Таццяна і Канстанцін Зубікі ў свой час закончылі аддзяленне харэаграфіі Інстытута культуры. Танцоры тут розныя, дзеткі ад 6 да 14 гадоў. Выпускнікі гэтага ансамбля затым пераходзяць у дарослы універсітэцкі танцавальны калектыў — "Крыжачок", які таксама добра вядомы ў студэнцкім асяроддзі.

Здаецца, усё проста. Але ж праца са 130 удзельнікамі "Літарынкі" вельмі напружаная. Свой юбілей у сакавіку ансамбль адзначаў у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Пазней мастацкі кіраўнік гэтай установы скажа, што больш вясёлага і каляровага свята пры перапоўненай зале не памятае. І нічога, што не ўсім хапала месцаў. Затое было ўтульна і святочна. Віншавальнае пісьмо дзецям прыслаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Г.Лукашэнка. А з нагоды юбілею — падарыў каляровы тэлевізар. Зачытваў пісьмо памочнік прэзідэнта А.Г.Слука.

...Летам маю ўвагу прыцягнуў двухпавярховы прыгожы аўтобус, вакол якога збіралася купка дзяцей, і я падышла пацікавіцца. Так і пазнаёмілася з Таццянай Зубік, якая са сваімі выхаванцамі накіроўвалася ў паездку па Еўропе.

Вясною "Літарынку" наведалі госці з Партугаліі — з горада Лірэя. Ім вельмі спадабаўся падрыхтаваны ансамблем кліп. Прагледзелі яны таксама фотаздымкі і запрасілі беларускіх юных танцораў у Партугалію. Гэта, бадай, першае запрашэнне туды дзяцей-беларусаў. Адпушчаных на гэтае падарожжа сродкаў хапіла б і на авіябілеты, але на аўтобусе праехацца па ўсёй Еўропе, вядома, цікавей. Так і вырашылі. Па шляху на гастролі гарэзлівыя "літарынкі" паглядзелі Варшаву, цэлы дзень правялі ў горадзе Айземе — на радзіме І.С.Баха, наведалі дом, у якім нарадзіўся кампазітар. Адзін дзень быў прысвечаны Парыжу, дзе ўдзельнікі ансамбля зрабілі экскурсіі ў Луўр, на Эйфелеву вежу, Елісейскія палі, у Сабор Парыжскай Божай Маці.

Потым была Іспанія. Надвор'е спрыяла ваяжу. Такое бывае раз у жыцці — гаварылі радасныя дзеці. Бо і сапраўды, яны столькі пабачылі за гэтае падарожжа! Горад Сан-Себасцьян на беразе Біскайскага заліву. У кожнай краіне дзеці абыходзіліся без перакладчыкаў, лёгка знаходзілі дарогу да музеяў і цікавых месцаў. Харчаванне, у асноўным, рыхтавалі самі, на газавай пліце, уладкаванай у аўтобусе. Горад Сан-Себасцьян на беразе Біскайскага заліву парадаваў сваёй чароўнай экзатычнай, пальмамі. Напярэдзе ж была яшчэ Партугалія, акіян. Пасяліліся дзяцей у гарах: прачыналіся яны ў аблоках, потым спускаліся, садзіліся ў аўтобус і ехалі даваць канцэрты. Уразілі прыгожыя пляжы. Пясок, як мука, і сіне-зялёная вада. У Партугаліі свой рытм жыцця. Днём, у спёку, усе спяць і адпачываюць, гэта так званая сіеста — дзённы адпачынак, калі зачыненыя магазіны, калі ў кавярнях амаль нікога няма, а вечарам фіеста — свята, гулянне. Бачылі персікавыя, коркавыя дрэвы. І кожны вечар дзяцей запрашалі ў партугальскія вёскі на фіесту. Іх прымалі цёпла, выклікалі на "біс". Аўтобус запраўлялі бензінам, наладжвалі багатыя застоллі. Шмат цікавага назіралі дзеці. У горадзе Алкабаса проста праз манастыр працякала рэчка, і манахі, не выходзячы з яго, лавілі рыбу.

Чатырнаццаць новых танцаў падрыхтаваў ансамбль "Літарынка" для гэтых гастроляў. Асабліва спадабаліся партугальцам "Хусцiначка", "Каханачка", "Кропелькі", "Мульціпульці", "Кенгуру", "Гусак", "Парасонікі", "Канюшына". Выконваліся яны пад фанаграму. Бывала, што вярталіся з канцэртаў за поўнач.

А раніцой спяшаліся да акіяна, на пляж. Калі дзеці жылі ў гарах, ім далі цэлы дом, з кухняй, усімі выгодамі, нават з камінам. Гэта было так цікава! Партугальцам вельмі спадабалася дзіцячая творчасць, і яны запрасілі да сябе "Літарынку" на наступны год.

Завяршыўся чароўны ваяж па Еўропе. Сёння ў "Літарынкі" будзённая праца. Ансамбль рыхтуе новыя работы да 70-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Свята будзе наладжвацца 30 кастрычніка ў Нацыянальным тэатры оперы і балета. Поспехаў табе, "Літарынка"!

**Аліна НЯДЗВЕЦКАЯ**



*На здымку: танцавальны ансамбль "Літарынка" ў Парыжы каля Луўра.*

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# САРАМЛІВЫ СУЛТАН

***Яму цяпер 50 гадоў і 29 з іх ён — абсалютны валадар маленечкай дзяржавы, Брунея, што месціцца ў джунглях Барнео. Плошчу, якая належыць султану, на карце свету можна закрыць паштовай маркай. Мабыць, мала б хто ведаў пра Бруней, калі б у ягоных нетрах не знайшлі радовішча нафты і газу коштам у 37 мільярдаў долараў, што з поспехам перакрыла тэрытарыяльную "непаўнацэннасць". Усім гэтым "да непрыстойнасці" велізарным багаццем валодае адзін чалавек — султан.***

У маладосці ён быў шумным вісусам, някепска гуляў у воднае пола, здзіўляў Парыж і Лондан шматлікімі і шматлюднымі відовішчамі, вар'яцкім і неабмежаваным марнатраўствам.

Зараз ён жыве спакойным сямейным жыццём. Сярод усіх астатніх мусульман Брунея яго вызначае толькі адзінае: ніхто з іх не можа мець болей за адну жонку — султан мае дзвюх. Гісторыя ягонага другога кахання стала і скандалам, і сенсацыяй, і легендай. У 19 гадоў (султан быў кадэтам лонданскай вайсковай школы) ён пабраўся шлюбам са сваёй кузінай 17-гадовай Раджэй Істэры. Праз два гады, калі ягоны бацька адмовіўся ад трона, малады султан узначаліў дзяржаву. Усё ішло як і трэба ў каралеўскай сямейцы, падпарадкаванай тысячагадовым традыцыям: маладыя весяліліся, кіравалі жа, хай і неафіцыйна, былы султан.

У 28 гадоў малады і сімпатычны мільярдэр закахаўся ў прыгажуню сцюардэсу Марыям і ажаніўся з ёй, нягледзячы на пратэсты бацькі. Толькі пасля нараджэння дзіцяці сваякі змірыліся з непазбежным: Марыям атрымала належны тытул, але стары султан так і не прызнаў нявестку да свайго скону.

Калі вы наведаеце Бруней і трапіце на афіцыйны прыём у палац, дык убачыце, што па абодва бакі ад трона сядзяць жонкі султана — Раджэй і Марыям. Калі ён ад'язджае ва ўлюбёны Лондан, жонкі па чарзе суправаджаюць яго.

Зараз султан — абсалютны манарх. Ён і прэм'ер-міністр, і міністр абароны, і глава мусульман, абаронца веры, якая сцвярджае боскае права караля. Усе ключавыя пазіцыі ва ўрадзе займаюць члены ягонай сям'і. Але так было не заўжды. Яшчэ дзесяць гадоў таму султан схіляўся да дэмакратыі, але расчараваўшыся ў тым, як яна рэалізоўвалася — паўстанні, раскол, хаос, — забараніў усе палітычныя партыі і арыштаваў многіх партыйных лідэраў. З цягам часу пасля раскаяння некаторыя з іх былі вызвалены. Тыя ж, хто не адмовіўся ад сваіх "вольналюбівых" поглядаў, засталіся за кратамі.

Бруней — краіна з адным з самых высокіх у свеце узроўняў жыцця. Урадавыя чыноўнікі складаюць палову працуючых — іх 85 тысяч чалавек (насельніцтва — 261 тысяча). Шчодрыя пенсіі, бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, беспрацэнтныя крэдыты на машыны і дамы і шмат што яшчэ, аб чым толькі мараць нават цывілізаваныя краіны, — з'яўляецца, як мяркуе султан, саладкай кампенсацыяй за абмежаванне палітычнай свабоды і выбару.

Калі яго крытыкуюць за абмежаванне дэмакратыі, ён адказвае: "Я паважаю права кожнага казаць тое, што ён хоча, але я павінен ахоўваць бяспеку інтарэсаў Брунея. Калі я буду ўпэўнены ў тым, што адказных людзей у маёй краіне дастатковая колькасць, тады і наступяць часы перамен. Але магчыма, што гэта не надарыцца за ўсё маё жыццё".

Як самы багаты чалавек у свеце, уладар Брунея і прываблівае ўсеагульную ўвагу. Асноўнае пытанне, калі гутарка заходзіць пра султана, — як ён выдаткоўвае грошы.

Вось адна са старонак ягонай чэкавай кніжкі — будаўніцтва самага вялікага ў свеце палаца. Статыстыка па гэтым палацы — гэта фантастыка. У тронным зале — дванаццаць жырандоляў вагой па дванаццаць тон кожная. Разам з іншымі свяцільнямі палаца — гэта 51490 лямпачак. Калі кожная з іх будзе служыць адзін год, дык і тады неабходна мяняць па 200 лямпачак штодня.

Банкетная зала была разлічана на 4 тысячы чалавек. Плошча ўсяго палаца 5,5 гектара, а агульная плошча падлогі — 20 гектараў. Падчас будоўлі было выкарыстана 28 тыпаў мармуру. Кошт гэтага восьмага цуду свету — 400 мільёнаў долараў.

Калі ўсё было скончана, султан, абышоўшы палац, вырашыў, што ён падобны да шматпавярховага гаража і — загадаў зруйнаваць яго, каб пабудаваць іншы палац...

Уласнасць султана распаўсюджваецца на ўвесь свет: гатэлі, аэрадромы, дамы і палацы, вілы, землі... у Амерыцы, Англіі, Францыі. Тры гады таму ён зрабіў унёсак у фонд дапамогі мусульманам у Босніі і Герцагавіне памерам у 1 мільён долараў. А на Кіпры аднойчы даў служачаму гатэля 170 тысяч долараў гасцінца. Чарговы пагалосак, які ўзбуджае заходніх абывацеляў і журналістаў: султан замаўляе свечкі, якія гараць столькі часу, колькі гаспадар вызначыў для чарговага банкету: "Прыём скончаны, панове, — пагаслі свечкі". Каб не надакучыла...

Загадкавы мусульманскі манарх — ягоны ўсходні лад жыцця, англійскія манеры, абсалютная ўлада, ягонае невымернае багацце — застаецца крыніцай прыцягнення, здзіўлення, захаплення.

Прэса пастаянна паведамляе заходняй публіцы ўражальныя падрабязнасці аб ягоным побыце і жыццёвым стылі. Кожны дзень да ягонай маёмасці дадаюцца чатыры мільёны долараў. Нядаўна султан загадаў перафарбаваць любімы аўтамабіль. У якасці фарбы выкарыстоўвалася вадкае 24-каратнае золата коштам у 900 тысяч долараў. На 150 тысяч штодня набываюцца англійскія ружы. 30 тысяч штотыднёва на вопратку. На любімых кашулях гузікі-дыяменты. Кашулі — слабасць султана: аднойчы ён выдаткаваў на іх 51 тысячу долараў. Большасць ягоных чаравікаў з кракадзілавай скуры, іх кошт — 3 тысячы за пару. Калі ён наведвае Англію, банкі выдаюць яму са сховішчаў новыя купюры: султан адмаўляецца мець справу з грашыма, што ўжо выкарыстоўваліся.

Адна з ягоных жонак неяк прайшлася па крамах Парыжа — гэты шпацыр каштаваў султану 3 мільёны долараў. Аднойчы яе высокасць прывезла з Еўропы сваім сяброўкам падарункі, залатыя вырабы на 750 тысяч долараў.

Нягледзячы на ўсё тое, пра што вы даведаліся, ён, як гэта ні дзіўна, вельмі сціплы і сарамлівы чалавек, асабліва з прадстаўнікамі прэсы. У адным са сваіх інтэрв'ю султан сказаў, што хацеў бы, каб людзі памяталі пра яго не толькі таму, што ён багаты. Але што ж паробіш? Грошы гавораць самі і асабліва гучна, калі ты найбагацейшы чалавек у свеце.

*(Паводле матэрыялаў замежнага друку)*



## КРЫЖАВАНКА "МУЗЫКА"

**Па гарызанталі:**

1. Чаргаванне і суадносіны музычных працягласцей і акцэнтаў. 4. Опера Гуно. 7. Кампазітар, аўтар балета "Арфей". 11. Балет Хачатурана. 14. Кампазітар, аўтар оперы "Кала Бруньён". 18. Інтэрвал шырынёй у 9 ступеняў. 20. Таджыкскі 4-6-струнны шчыпковы музычны інструмент. 22. Кампазітар, аўтар балета "Жызель". 23. Опера Рахманінава. 24. П'еса, якая ўтрымлівае не меней трох правядзенняў асноўнага раздзела. Так напісана шмат фіналаў санатных цыклаў. 25. Нямецкі кампазітар і нотны друкар XVIII стагоддзя. 26. Дадатковы раздзел, можа быць у канцы музычнага твора. 27. Вышэйшая навучальная музычная ўстанова. 28. Беларускі кампазітар, аўтар музычнай камедыі "Паўлінка". 29. Беларускі кампазітар, аўтар аперэты "Несцерка". 30. Французскі кампазітар, аўтар оперы "Рамэа і Джульета".

**Па вертыкалі:**

2. Чатыры ступені гукарада, якія размешчаны побач. 5. Сучасная выдатная сусветна вядомая спявачка (мецца-сапрана). 6. Ударная нацыская нота на слабай долі такта. 8. Італьянскі народны танец. 10. Самы вялікі смычковы інструмент з сямейства скрыпак. 12. Заканчаная частка опернага спектакля. 13. Кампазітар, аўтар оперы "Дуброўскі". 17. Сучасны сусветна вядомы рускі дырыжор. 19. Опера Цікоцкага. 21. Старадаўні польскі духавы музычны інструмент.

**Па зігзагу:**

3. Арганізатар і кіраўнік ансамбля "Песняры". 4. Савецкі кампазітар-песеннік. 9. Опера Рубінштэйна. 15. Беларускі кампазітар, аўтар выдатных песень пра вайну: "Ой, бярозы ды сосны" і інш. 16. Характэрная тэма ці музычны абарот, якія абрысоўваюць які-небудзь персанаж оперы, балю і г.д.

**Склала крыжаванку Эмілія МАРЫЧ**

**Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ**

**МУЖ І ЖОНКА**

*Муж жонцы дужа стаў гадзіць,*
*На ручках нат яе насіць,*
*Абед, вячэру гатаваць,*
*Яду ў пасцельку падаваць.*
*"Няхай пад'есць і адпачне,*
*Не будзе грызці больш мяне".*

*А жонка ела і таўсцела,*
*На мужа коса нейк глядзела.*

*Стаміўся муж, ён стаў нядуж,*
*А жонка:*
*— Што гэта за муж!..*
*Узяў — як ляльку, даглядай,*
*Раскошу мне, выгоду дай.*
*Ты цямця-лямця і слюнцяй,*
*Пайду я да другога, знай!*

*Пайшла...*
*Застаўся муж-бабыль,*
*А ён жа*
*Так яе любіў.*

*Сварлівай жонцы не дагодзіш,*
*Ты толькі сам сабе нашкодзіш.*

**МОЙ МІЛЕНЬКІ ПЕРАПІЎ**
*(З народнага)*

*Мой міленькі перапіў,*
*Чарку лішнюю хапіў.*
*Вось дык гора, вось дык ліха,*
*Чарку лішнюю хапіў.*

*Усю ночку екатаў,*
*Спаці хвілі не даваў.*
*Вось дык гора, вось дык ліха,*
*Спаці хвілі не даваў.*

*Раніцою сеў за стол,*
*Я паставіла расол.*
*Збан расолу літраў пяць*
*Асушыў, не можа ўстаць...*
*— Ой, жывот, ой не ўтрываць —*
*Трэба ж доктара пазваць.*

*Покуль доктар падаспеў,*
*Мой міленькі акалеў.*
*Вось дык гора, вось дык ліха,*
*Мой міленькі акалеў.*

*Везлі любага хаваць,*
*Стала слёзы праліваць,*
*А завезлі за сяло —*
*І мне стала весяло!*

**МЯТА**
*(Песня)*

*Я хадзіла, я гуляла,*
*Вечарочкам па лужку,*
*І траву і мяту мяла,*
*Сумавала па дружку.*

*Мята, мята, ты памята,*
*Мята, мята, мне даруй,*
*Я ні ў чым не вінавата,*
*Шчыра праўду гавару.*

*Я сама яго пазвала*
*На расіцы на лужок,*
*І спярша пацалавала*
*Толькі раз, адзін разок.*

*Спадабалася, дарэчы,*
*Пацалунак паўтарыць,*
*Селі на траву, канечне,*
*Мяты водар чысты піць.*

*Водар мы пілі духмяны*
*Вечар, ноч, аж да зары,*
*І нікому, кім стаптана,*
*Мята, ты не гавары.*

*Мята, мята, ты памята,*
*Мята, мята, мне даруй,*
*Я ні ў чым не вінавата,*
*Шчыра праўду гавару.*

**ПАРАДЫ МАМЫ**

*— Не спяшайся замуж, дочка,*
*Сталі горш і горш мужы,*
*Пачакай два-тры гадочкі.*
*— А ты, мамка, не кажы,*
*Трэба, мабыць, паспяшацца —*
*Можа горшы муж застацца.*

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 968
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**